УДК
ББК
Т

Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў".
Выпуск 18.
Заснаваная ў 2006 годзе.

У афармленні вокладкі выкарыстаны малюнак Мірсада Аджыка.

Здымкі Валерыя Дубоўскага, Джона Кунстадтэра,
Георгія Ліхтаровіча, Аляксандра Ружачкі, Віталя Савіча,
Георгія Чыгіра, Сяргея Шапрана.

Скобла, М.
С15 Камізэлька для месяца : паэзія / Міхась Скобла. – Мінск : "Кнігазбор", 2016. – 232 с. – (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; вып. 18.)

Кніга “Камізэлька для месяца” — і пэўнае падсумаванне, і працяг шляху паэта, які запомніўся чытачам адметнай вобразнасцю, яскрава-нацыянальнай метафорыкай, пазбаўленай мудрагельства філасафічнасцю. “Паэтычнае мысленне Міхася Скоблы цэласнае, у ім не разарваныя зямля і неба, жыццё і смерць, карані і вецце; там усё жывое, і ўсё — адно ў адным” (Ул. Някляеў). Асобны раздзел склалі пераклады з польскай, украінскай і літоўскай паэзіі.

ISBN

УДК
ББК
А

© "Дзеяслоў", 2016
© Міхась Скобла, 2016
© Афармленне.
ПУП "Кнігазбор" 2016

ISBN

# УСЁ, ШТО ТРЭБА…

Ад пачатку зразумела: калі я пішу прадмову да гэтай кнігі, значыць, тое, што піша яе аўтар, мне па гусце. І не толькі тое падабаецца, што ён піша, але й тое, што робіць. Да прыкладу, менавіта Міхась Скобла склаў анталогіі беларускай паэзіі ХХ стагоддзя «Краса і сіла» (2003) і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакраю» (2008), зрабіўшы ўсё дзеля таго, каб гэтыя якасныя ва ўсіх адносінах кнігі былі выдадзеныя.

Але найбольш мне даспадобы, што ў вершах Міхася Скоблы няма таго, што мне ніколі не падабалася, і што ў найноўшыя часы стала ледзьве не модай у вершаскладанні: нямашака ў яго сцёбу і ўяўнай глыбакадумнасці.

Што я маю на ўвазе? Ну вось чытаю ў… зрэшты, не важна, у каго: “Дарога, якая нікуды не вядзе, толькі называецца дарогай”. Добра, няхай так. Хоць можна было б, напрыклад, напісаць: “Толькі тое, што нікуды не вядзе, называецца дарогай” — і было б тое самае. Няважна, што гэта ўзаемавыключэнні, — любое з іх можна падаць сёння як вершы. Але ні першае, ні другое вершамі (паэзіяй) не з’яўляюцца, бо ў іх прысутнічае рацыя, але адсутнічае эмоцыя. Тут няма энергіі, няма таго, што пераліваецца спачатку з радка ў радок, а пасля ад паэта да чытача, як кроў з вены ў вену. І гэткая сёння бальшыня вершаваных тэкстаў (пачалося на Захадзе і перакацілася да нас). Яны не пранізваюць, іх немагчыма адчуць, таму нельга нават сказаць, для чаго, для каго яны?.. Можна, вядома, фанабэрыста заявіць, што ні для каго і ні для чаго, самі для сябе, але й заява гэткая — таксама пустое.

У Міхася Скоблы няма гучных дэкларацый, заяў, ён проста жыве ў паэзіі так, як яе — і сябе ў ёй — адчувае. Вось у яго (амаль тое самае, што і ў працытаванай “дарозе”, па рытме таксама верлібр): “Рыба, губляючы срэбную луску, // Выпаўзла на чорны лёд”. Таму, хто не адчувае розніцу паміж гэтай рыбай і “дарогай”, без толку нешта тлумачыць. Я не кажу, што ў гэтай “рыбе” нешта геніяльнае, я кажу, што гэта не пустое. Не ўяўна глыбакадумнае, як у неназванага аўтара, якога не хапіла на тое, каб, скажам, напісаць: “Пустая дарога выпаўзла на чорны лёд”.

А вось прыклад насамрэч глыбокага. Ці высокага — як каму: «Кнопку з надпісам простым “неба” // Націскала яго рука». Лішняе тут хіба слова “простым”, бо неба — гэта зусім не проста, але... Але яно не столькі пра неба, колькі пра таго, хто пад ім. Пра мастака. Пра Марка Шагала, які паміраў у ліфце. Падымаючыся... І яно глыбока (ці высока) і праз тое, што ўзнікае безліч вобразаў, лятучых шагалаўскіх людзей, што

згадваюцца абрысы ўпісанага ў нябёсы Віцебска, Беларусі, і таму што напінаецца нітачка між душой і вышынёй...

Ці: “Аблокам і няўцям, // Што яны таксама — нябёсы”. Госпадзе, колькі перад маімі вачамі прайшло людзей, якія жылі як бы збоку ад жыцця, так, нібы яны ў свеце гэтым выпадковыя! Гэтак жылі, нібы перапрашаліся, што замінаюць жыць іншым, не выпадковым, некім ці нечым пазначаным, абраным. Тым, каму яны не роўня, бо яны — зямля. І пераважна гэта былі беларусы, рускіх ці палякаў такіх я амаль не сустракаў.

Аўтар кнігі ў нечым і сам такі. Ці таму, што беларус, ці Бог ведае чаму. “Самы непрыкметны фініш // Папрашу я ў Бога”. Каб не прачытаў я ўсю кнігу (а гэтыя радкі ўжо з апошняга верша ў ёй, далей — пераклады), дык мог бы падумаць, што гэта гульня, поза. Але не... Праўда, не быў бы ён беларусам, каб пад канец не меў да Усявышняга маленькай просьбы: “Ты мяне завершы вершам, // Як стажок у лузе”.

Калі я скажу, што вобразная сістэма паэта Міхася Скоблы заземленая, дык менавіта ў гэтым сэнсе. Ён у мысленні сваім неадрыўны ад таго, што насамрэч адбываецца з чалавекам на зямлі паміж смерцю і жыццём. На крыжовых дарогах лёсу, з якіх не сысці і па-за лёсам. “Зніч айчынных крыжовых дарог // Зноў з-за свету душу маю верне”.

Тут варта сказаць не пра дыскрэтнае, уласцівае пакаленню, што сфармавалася ў кліпавым часе, а пра цэласнае, продкавае, “паганскае” мысленне аўтара гэтай кнігі. Толькі з гэтакім мысленнем, у якім не разарваныя зямля і неба, жыццё і смерць, карані і вецце, можна напісаць: “За пазухаю ў дуба, у дупле // Хаваюцца маланкі, як вужакі”.

Усё жывое, і ўсё — адно ў адным.

Нельга пакінуць па-за ўвагай яшчэ адну якасць паэзіі Міхася Скоблы, якая ёсць і якасцю ягонага характару, і якую можна назваць: абарончасць. Прычым, апантаная: ён апантана бароніць сваё. Сваю мову, гісторыю, зямлю... Усё, што Беларусь, — у яе мінуўшчыне і будучыні:

Там больш спагады і святла,
Там вокны — шыбінамі ў неба,
Там ёсць алтар і ёсць святар,
Там ёсць званар і ўсё, што трэба.

У кнізе выбранага Міхася Скоблы, як ва ўпарадкаванай беларускай хаце, гаспадар якой ведае, што і калі ў жыцці можа спатрэбіцца, сапраўды ёсць усё, што трэба. Ці амаль усё... І ўсё на сваім, асобным месцы. Як на сваім, асобным месцы ў сучаснай беларускай паэзіі і сам аўтар кнігі — паэт Міхась Скобла.

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

* * *

Зорных шаляў, віхор, не вагай,
Час і ім са спакоем звыкацца.
Знерухомеў бярозавы гай,
Ашчаджаючы рэха вакацый.

Над бяздоннем рухавых крыніц,
Бы ў святым прычашчальным маленні,
І ядлоўцы схіляюцца ніц,
І алені ўстаюць на калені.

На парэпаных лапах ялін
Выпаўз ельнік на мокрае ўзлессе,
І глядзела вада з каляін,
І ляцела "кур-лы" з паднябесся.

Нехта ціха па сцежцы ступаў.
Ці не ўчора і мы там хадзілі?..
Пад нагамі гарэў лістапад,
Апякаючы
            грудзі
                  радзіме...

* * *

Бацька прыйшоў.
На парозе прысеў,
Быццам з работы вярнуўся дахаты.
— Што ж ты адрокся, сынок, як і ўсе?
Што ж не адведаеш таты?

Помніш,
Маленькім хапаўся за руль,
Сынку,
Бялявы, як сонейка...
І не схапіцца за
“Тата, даруй!..”,
Як за саломінку...

Дзе ж тваё поле
І жаўранкі дзе?
Крыж, ды півоні, ды месячык...
Выйсці на волю
Хацеў да людзей —
Дротам завязаны веснічкі.

Скрып калаўрота ў калодзеж упаў.
Кружаць над возерам чайкі.
Вецер з веранды выдзьмухвае пах
Бацькавай
Чорнай
Фуфайкі...

* * *

Я прамаўляю слова БОГ...
Пакіну свет, такі маленькі,
І не пушчу вас на парог
Свае прасторнае малельні.

Там больш спагады і святла,
Там вокны — шыбінамі ў неба,
Там ёсць алтар і ёсць святар,
Там ёсць званар і ўсё, што трэба.

О вы, хто ўбегчы не паспеў,
Хто пакідаў паўсюль руіны,
Пачуйце — гэта ж херувімы!
Пакіньце мне іх боскі спеў.

Пакіньце мне, — я не манах,
Што зачыніўся ў змрочнай келлі, —
Зашклёны сонцам поўны дах
Блакітнай хмельнае купелі!

Каханы трыццаць тры разы
І трыццаць тры разы пракляты,
Я ўкленчу там пад абразы...

Мне страшна будзе йсці дахаты.

* * *

На пласе знямелай рабіны
Заторгаўся сонечны чуб...
А людзі ўсё нешта рабілі,
І страты ніхто не пачуў.

І доўга крывавіўся захад,
Дзе промень апошні патух,
А воблакі вецер наўзахап
Сушыў, як пакошаны луг.

І скінуўшы маску ў катоўні,
Сабе, непазнаны, наўме,
Пустэльняй самотнае поўні
Прытомлены цень прамільгне

І выйдзе да родных ускраін,
І, больш не жадаючы страт,
Аднойчы пахваліцца Каін,
Што Сонцу
быў родны ён брат.

## ЗА ІМГНЕННЕ ДА ВЯРТАННЯ Ў ГЭТЫ СВЕТ

Я пакінуў каханую.
Магілы родных.
Забіў дошкамі храм сваёй веры.

Адпусціў на волю ўсе вятры,
Даверыўшы ім родныя песні,
Баёвыя гімны,
Старадаўнія замовы
Ды запаветныя пацеры,
Якія калісьці ведаў.

Кінуў у багну похвы ды меч,
Аддаў на забаўку малым дзедаву сявеньку
І пайшоў.
...У апраметную, — здагадаліся адныя,
...Да пана Бога, — мовілі іншыя,

Каб ніколі не вярнуцца,
Бо заўсёды
За імгненне да вяртання ў гэты свет
Я абавязкова згадваў,
Што ў ім
Мяне чакае толькі Радзіма,
Адчуваючы з жахам,
Што нават гэтага
Для мяне недастаткова...

* * *

Я хацеў бы памерці у сне.
Каб не ведалі родныя ўсе.

Наказаўшы світальным вятрам
Развітацца з радзінаю,
І з абдымкаў заплаканых траў
Над радзімаю

Узляцець, пралунаць, нібы птах,
Каб не бачылі нават начніцы,
Так высока, нязмушана так,
Як магло да сканання прысніцца...

Між прысад пракрадзецца аўто,
Сыкне вуж у глухой каляіне.
Не завесіць люстэрка ніхто
Тут, дзе жыў я, — у гэтай краіне.

І драмацьмуць і рэчка, і сад,
Толькі вецер абдыме, як брата.
Не вярнуся ніколі назад,
Адчыняйся, паднебная брама!

Не прачнуся за сонца раней,
І душа мая цела пакіне,
І ўздыхнецца ў нябёсах вальней,
Чымся ў роднай зямлі
ў дамавіне.

## КАМЯНІ

Паўзлі па зямлі камяні,
На полі адпачывалі,
Падсочвалі карані,
Куляліся поначы ў твані.

Трывожна гулі званы,
На Спаса як ці на Ўшэсце,
Нібы пераможцы з вайны,
Ішло
      камянёў
                  нашэсце.

Паўзлі камяні дамоў,
Шукалі назад дарогу,
Тутэйшых не знаючы моў,
Маўчалі пра дапамогу.

А нехта, набіўшы гуз,
Упоцемках, без газніцы,
Драбніць загадаў на друз
І выкладаць гасцінцы.

Людзі перамаглі.
Толькі ніколі, ніколі
Па вязнях сваёй зямлі
Ім не прыйсці да волі.

## ДУША

Дакуль пакутаваць ад смагі,
П’ючы з пустога гладыша,
І жыць з жабрацкае сярмягі
Ты будзеш, родная душа?

Па крыжавых брыдзеш дарогах,
Самотнай зоркаю гарыш.
А ўслед — дурны і дзікі рогат
Тых, хто паслаў цябе на крыж.

## ВЕЧАР

Ссівелая над Свіслаччу альтанка
Прымружвае прастуджаныя вочы
І пазірае стомлена ды сумна
Туды, дзе у бяззубай пашчы моста
Варушыцца качыная чародка
І прэч бягуць паскубаныя хвалі.

Чаўны ўначы
Не вынырнуць.
Маўчацьме
Каменны бераг,
Шэры мур альтанкі
Ніколі не пачуе слоў пяшчоты.

А над ракой мурзатыя аблокі
Абмылкам поўні...

## ВОЧЫ САВЫ

Я таксама люблю ноч, вочы савы.
Днём сонечныя пратуберанцы
Выплюхваюцца на белыя аблокі,
І пырскі трапляюць
У мае безабаронныя вочы.
Збоку гэта выглядае даволі бяскрыўдна,
Як быццам мне проста
Закапваюць вочы;
І доўга потым
Вандруюць па зямлі салёныя туманы.

Я не люблю глядзець на сонца,
Я не разумею Ікара,
Я люблю глядзець поначы ў вочы савы.

Яны і ў цемры бачаць правідловы шлях.
Яны не выпраменьваюць святла і не саграваюць,
Але толькі паміж імі і поўняй
Вечна трапятацца матыльку маёй надзеі.

* * *

Сузор'і замярзалі.
Рыба, губляючы срэбную луску,
Выпаўзла на чорны лёд, знерухомела.
Рахманы Леў драмаў,
Бачыў цёплую Афрыку.
Вялікая Мядзведзіца
Пагаджалася ўсё жыццё
Танчыць на гарачай падлозе,
Як некалі ў Смаргонскай акадэміі.

Вам таксама холадна,
Валасы Веранікі?..

Снягі навокал.
Я дыхаю на зоры,
Спадзеючыся,
Што калісьці далёкай-далёкай
Жнівеньскай ноччу
З чорных халодных лапаў космасу
Вызваліцца хоць адна зорачка,
Адагрэтая
Маім дыханнем.

## МОСТ

Стомленая мурзатая дарога
З-пад гумовых колаў,
З-пад бязлітасных вострых капытоў
Бясконцых калгасных статкаў,
Што кожнага дня
Брылі па яе шырокай спіне
Да небакраю,
З-пад нядрэмнай аховы
Тэлеграфных слупоў,
Якія трывожна гулі,
Калі яна спрабавала
Выбегчы на зялёнае поле,
З-пад зоркападу,
Які штоночы
Дагараў на яе шэрым прысаку,
Варушачы старыя ўспаміны,
Хацела ціха апусціцца ва ўлонне ракі,
Пяшчотнае і чыстае;
Але
Пад яе змучаныя бакі
Падлезлі магутныя бетонныя стаўбуры,
Адпіхваючы ўверх,
Далей ад светлае журлівае плыні,
А лева-
І праваруч
Паўсталі ўзорныя,
Аблямаваныя пафарбаванымі балясінамі,
Ды ўсё-такі
Краты.

Недасягальная
Кліча
Рака.

## ВЯРТАННЕ ВЕТРУ

Здзічэлы на кінутым хутары сад
Забрыў па калені ў возера,
Шукаў паратунку.
Старая пахіленая яблыня
Не паспела дабегчы да вады,
Трапіла пад нож сталёвай пачвары.
Крушню патрушчанай цэглы
Аблізваюць шурпатыя хвалі.
Зааралі стары калодзеж.
І толькі высачэзная дзедава таполя
Засталася стаяць на збуранай сядзібе,
Самотна аглядаючыся навокал.

І калі спілавалі яе,
Доўга не хацела падаць.
А падаючы,
Адчайна ўзмахнула
Непаслухмянай кронай,
І — спыніліся хвалі ,
Ад раптоўнага ветру,
І па ўсёй Беларусі
Адгукнуліся гаі ды пушчы.

І вецер мацнеў,
І тады па ўсім свеце
На захад і ўсход
Паўсталі на яго ным шляху
Вышчарбленыя сонечнымі дзідамі
Шкляныя хмарачосы,
Гарачыя коміны заводаў,
Вострыя пікі тэлевежаў,
Трывожна загулі
Лініі высокага напружання.

Штоночы
Вяртаецца зноўку
Да майго акна
Паранены вецер,
А я,
Што таксама
Вырас пад дзедавай гаполяй,
Не ведаю,
Як аблегчыць яго пакуты,
Як загаіць апёкі...

## У МУЗЕІ

“Страчана...”
“Страчана...”
“Страчана...” —
Надпіс на кожным цэтліку.
З памяццю
Спячаю
Спадчыну
Не зберaглі мы цэлаю.

Комін над зрубам з пластыку
Тоіць цяпло няшчырае.
З пластыку нават ластаўкі —
Вымерлі недзе ў выраі.

Гмахі да хмар будуючы,
Не зберaглі мы цэркаўку...
Скемім, маўляў, у будучым
І па музейным цэтліку.

Праўды святой супольніцы —
Кнігі Скарыны, Буднага,
Крыж Ефрасінні Полацкай...
“Страчана...”
“Знікла...”
“Згублена...”

Быццам драбнюткая мачына,
Бы каласок апошні,
Згублена песня матчына
Разам з сярпом на пожні.

Страчаны продкаў звычаі.
Пнецца мяшчанства, хоць трэсні:
“Жыцьмем, маўляў, пазычаным,
Казкай чужой і песняй!”

А па-над штучным прадзівам
Магнітафоннай стужкі
Мова далёкіх прадзедаў
Просіцца ў нашы душы!

Толькі душы ні каліва
Тут, дзе пад шклом распяты
Ордэн і нож Купалавы —
Страшныя экспанаты.

Гід муляжы нахвальвае,
І фотаўспышка бліскае.
Музыкай пахавальнаю
Тут паланез Агінскага.

* * *

Душы дрэваў глыбока ў зямлі.
Плоць, што марыла жыць у нябёсах,
На закланне агню аддалі
Або скрыпку зрабілі ці посах...

Што ты граеш, шляхотны скрыпач?
Дзе, бязродны, ідзеш, падарожны?
Скамянелы бурштынавы плач
У руках адагрэе не кожны.

І вясло, што трымае Харон,
І стырно, што пад пахай у Ноя...
Чарадою ссівелых варон
Попел стукае ў сэрца зямное.

Варухнуцца збуцвелыя пні.
Душы дрэваў шукацьмуць не выйсця, —
У пудлівай начной цішыні
Да чужога прытуляцца лісця...

* * *

У прыполе роднай хаты —
На старэнькай парэпанай прызбе —
Застаўся мой бурштынавы плач.
Да яго прыслухоўваецца студня,
але далёка — не чуе.
Косяцца з-за фіранак вокны,
Але занадта блізка — не бачаць.
Нейкія людзі сядзяць на прызбе,
смяюцца;
І маленькія бурштынінкі,
Зняважаныя гэтым дарослым смехам,
Хаваюцца надвячоркам у шчыліны на сцяне.

Слухае хата мой бурштынавы плач
Сваім спарахнелым нутром,
Спадзяецца: мо хоць немаўлячыя слёзы
Выратуюць яе ад шашалю;
Збірае ў прыпол вянкі пахучай цыбулі,
Каб узімку пачаставаць мяне,
Каб я як некалі заплакаў.

І хата яшчэ доўга жыцьме верачы,
Што гэтыя слёзы хоць і не бурштынавыя,
Але таксама шчырыя.

* * *

Паслухайце, чалавекі,
З чаго зроблены вашыя чаравікі,
У падэшвах якіх яшчэ цепліцца жыццё?

Як доўга не памірае мора ў ракавіне,
малітва ў разбуранай царкве,
рэха на стадыёне.

І таму не здзіўляйцеся,
Калі звычайная падушка
Раптам вылятае ў адчыненае акно,
Абезгалоўленыя селядцы ў бляшанцы
Варушаць спаленымі расолам плаўнікамі,
А човен прырастае да берага.

І калі полымя вырастае,
Яно пакідае зямлю —
Вяртаецца на сонца.

І калі могілкі стануць паркам
Імя якога-небудзь Смеху Варта,
То ўсё роўна яшчэ тысячу гадоў
Па начных алеях блукацьме смерць.

І калі заварушыцца брук —
Мы спахопімся,
Што хадзілі па чарапахах...

## ПАЭТЫ

Пімену Панчанку

Шчыры пост
Ці сцяжынка наўпрост
На гульбу, да Абрама на піва...
У паэтаў біблейскі узрост
На вякі.
А камусьці на дзіва.

Сапраўды,
Ці падлічым гады,
Мы, што звыклі, шануючы меру,
Мераць век даўжынёй барады,
Ці падлічым, а колькі ж Гамеру?

А мо не ў галаве,
У пустым рукаве
Загаіўшы няўгойныя болькі,
Ведаць, колькі Купала жыве
І Мікола, што з Гусава, колькі?..

Мусім
Не разгубіцца зусім
І засведчыць, прыспешыўшы крокі,
Што вядзе нас за рукі Максім,
Каб на свет паказаць на шырокі.

Шлях, раўней,
І, палетак, руней,
І над кветкай няхай пчала ўецца...
А паэты старэюць раней,
Чым астатняе ўсё чалавецтва.

Барані
Ад ліхой бараны,
Божа, душы іх — парасткі ў росах.
Ні калыскі у іх, ні труны,
Толькі верш
На зямлі і ў нябёсах.

І адна
У паэтаў віна:
Не ўміраюць і ў вечныя векі.
Ім гарэць ад цямна да відна,
Ім пятак не закрые павекі.

Час чумы
І сто год Калымы
Перажыўшы на свеце на гэтым,
Несмяротнымі станем і мы —
Возьмуць нас у бяссмерце паэты.

## СТОЛ АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА

Стаіць у Барэйкаўшчыне, як стод,
Уросшы ў зямлю па пахі,
Стары Сыракомлеў пісьмовы стол,
Падобны здалёк да плахі.

Ды не было ў ім нічога звыш,
А ліпла да рук жывіца.
Прыходзіў з суседняе вёскі віж,
Каб вершамі пажывіцца.

На самы высокі Парнас ганцоў
Заслаўшы,
Пегаса — ў яслі,
Святы і грэшны Міхась Стральцоў
Дамройваў свой свеце ясны.

Нібы на печы ў старым хусці,
Адтайвалі зябкія словы.
І быў
як з белай слановай касці
Ягоны стол адмысловы.

Астатнія — мусілі хто на чым,
Часцей — на дзяржаўных, з глянцам.
Хто ўдзень пісаў, а хто і ўначы,
Хто ціха йшоў, хто ў хамут б’ючы,
Хто — класікам-самазванцам.

У Пысіна быў мармуровы стол!
Калі раскапалі ў спешцы
На магілёўскіх могілках дол
За некалькі дзён да смерці...

На сценах нябожчыцкай ледзяшы
І ў летні дзень, і ў зімовы.
А навакол — ні жывой душы!
Лякарня, дзякуй за ўмовы.

Глядзеў паэт на сляпую столь
І бачыў у жыце пожні...
Ты не забудзь, калі ласка, стол,
Той пысінскі верш апошні.

Высвечвалі вочы, як іван-чай,
І тахкала сэрца нядрэмна,
А ў санітара і ў бывача
Пытацца было дарэмна.

А стол, жыццё сваё кленучы,
Прысесці прасіў галантна,
Калі ў нябожчыцкую ўначы
Прыходзіла муза Дантэ.

Яе заморскія пасталы
Трывожылі сон паэта…
Рассыплюцца пылам усе сталы —
Не забывайма пра гэты!

## УЗНЯСЕННЕ ШАГАЛА

Марк Шагал паміраў у ліфце.
Без радзімы на старасць год.
Фарбавала ліфцёрша кіпці
І гартала часопіс мод.

Без радзімы. З кавалкам хлеба.
З клеткаптушкай. Без жаўрука.
Кнопку з надпісам простым “неба”
Націскала яго рука.

Маляваў ён
Не ў вазе лотаць
І не вулічную любоў,
Ён вучыў чалавецтва лётаць,
З рук пускаючы, як галубоў!

На зямлі — адны каранціны,
Мытні ўсюды, і не прасі,
Каб вярнулі яго карціны.
І карціны — на небясі.

Там з апосталамі, паважна,
Расхінаючы бель аблок,
Млечным шляхам, як Эрмітажам,
Задуменна праходзіць Бог.

Марк Шагал адчуваў, жывы шчэ,
Калі ліфт набіраў разгон,
З шахты вырваўся на гарышча,
Тросам сцёбнуты наўздагон!

Захлынаючыся вятрамі,
У бязважкасці ліфт павіс.
Яго столькі разоў вярталі
З паднябесся на самы ніз!

Расчыніліся самі дзверцы,
Целу боязна ўслед ступіць —
Не паспелі анёлы смерці
Душу грэшную падхапіць.

Марк Шагал не паспеў памерці.
Бог агледзеў усё як след
І сказаў, нібы запавет,
Каб на віцебскім
На мальберце
Марк змастачыў яго партрэт!

## ВАЙДЭЛОТКА

У запаветнай дуброве ты
Прыслужваеш свайму богу,
І за асвечаны сонцам тын
У прысмерках не ўцячы.
А памаліцца лепш уначы
Не стоду — духмянаму стогу,
І развязаць перавясла касы...

Пахнуць дымам твае валасы,
Агонь адганяе цені.
Пярэшапты і галасы
Над капішчам зноў чутны,
І адплываюць, нібы чаўны,
Здоўжаныя летуценні
У таямнічы морак начы.

Спяць супляменнікі-крывічы,
І насцярожана дрэмлюць лукі,
І захмялелыя ў похвах мячы —
Накаштаваліся хмель-віна.
Спяць супляменнікі давідна,
Толькі не маюць спачыну рукі,
Што з далані частуюць Агонь.

А ён цалуе ўдзячна далонь
І туліцца да маленькай жрыцы,
І злыя духі ляцяць далоў…
А ноч мінецца, затрубіць рог,
Калі прачнецца каменны бог.
І песня будзе ў вяках журыцца:

Па дуброве дубцы рэжуць,
На каменні агонь кла́дуць...

## ВАЎКАЛАК

Сонны сад зашумеў і змоўк,
Высах плюшч на агні шыпшыны.
Ваўкалак, чалавекавоўк
Прытуліўся да чорнай шыбы.

Ён адседжвацца ў пушчы мог,
Меў і нораў амаль ваўчыны,
Ды, пакінуўшы свой бярлог,
Ён прыйшоў да сваёй Айчыны.

Харчаваўся, бы ўсе звяры,
І прывык да сырой дзічыны.
А цяпер на пустым двары
Ён прыпаў да акна Айчыны.

Скрозь па вёсках на ўсіх сабак
Агрызаўся зусім па-воўчы,
І жагнаўся люд: — Ваўкалак!
Хто ж ваўку заглядае ў вочы…

А ў вачах — чалавечы жах,
А ў вачах тых няма жадання
Папрасіцца пад цёплы дах.
Гэй, выходзьце на паляванне!

Гаспадар і замежны госць,
Ён чакацьме ў зялёнай пушчы,
На загрыўку, як срэбра, поўсць,
Асцярожны, як смерць, відушчы.

Ён заблытае ўсе сляды,
Ад любое ўцячэ пагоні,

Знойдзе вершнік сабе клады,
І патопяцца ў багне коні.

А пасля, бегучы ў бярлог,
Ён успомніць замову ўночы,
І кульнецца ў блакітны мох,
І кажух закапае воўчы.

## БУРШТЫНІНКА

У Ноеў каўчэг
Перад сусветным патопам
Шмат хто не трапіў
І не ўратаваўся,
Хоць і благаў:
— Да чыстых мяне залічыце!

Разбягаліся ўпрочкі дарогі,
За іх чапляліся хаты,
Пакінутыя дымамі і вятрамі,
Што гадаваліся на гарышчах;
Як спалоханыя страўсы,
Асверы нырнулі галовамі ў студні.

Не могучы вырваць карэнне з зямлі,
Чакалі пагібелі пушчы;
Бярозы, як ерэтычкі на вогнішчах,
Ускідвалі ўгору збялелыя кроны;
Плакалі моўчкі дубы
Недаспелымі жалудамі;
Па-качынаму заграбалі няўклюдна
Зялёнымі лапамі елкі;
Сцякалі жывіцаю сосны-падранкі,
І цвердзь
            прыбывала смалой.

Пра ўсё гэта распавяла нам
Гаманкая бурштынінка
З тваіх улюбёных караляў —
Сухая сляза дапатопных тых соснаў —
І — перашкодзіла нам мілавацца.

## ДРЭВЫ

Зямлю,
Каб не рассыпалася
На выбоінах Млечнага шляху,
як старое рыпучае кола;

Не рассохлася
Ад пякучых пацалункаў сонца,
як збан, што з ганчарнага круга
трапіў адразу ў печ;

Не размякла пад зорнымі ліўнямі,
ад якіх не ратуе
і парасон захмаранага неба;

Каб не раскідала па жмені
Касмічным вятрам на забаўку
Свайго жыццядайнага мліва —

Утрымлівае не збуцвелая зямная вось,
Не міфічная сетка мерыдыянаў,
Не частыя пазваночнікі чыгунак
І нават не сінія паясы рэкаў,

а Дрэвы,
Карэнні якіх аплялі Зямлю
І не адпускаюць,
Нават калі на месцы пушчы
Застаюцца заплаканыя пні.

## БАЛАДА ПРА СТАЙНЮ

Сказаў камісар: “Не патрэбен храм,
Вось-вось камунізм настане.
Мы ў храмах наробім складоў і крам,
А ў гэтым хай будзе стайня!”

Сказаў — і забегаў рабочы люд,
Пасеклі алтар, іконы.
Замест Хрыста на сцяне — хамут.
Прыгналі затым і коней.

А конюх хадзіў — ну нібы святар,
Паводзіў сябе прыстойна —
Маўляў, каб хапала ўсім святла,
Каб кожнаму было стойла!

А конюх быў пралетарскі, наш.
Вароты зрання рыпелі,
Ён рызай коням насіў фураж,
Паіў па чарзе з купелі.

А конюх часам у яслях спаў,
Бо піў, як Пане Каханку.
Аўса пад бок з мяшкоў нассыпáў —
І маеш бярлог да ранку!

Гарэлка грэе — не мерз зімой.
Ды толькі аднойчы ўночы

Прачнуўся конюх і — Божа мой! —
На лоб аж палезлі вочы.

— Ці мала плуга і баразны?
Ці ў д’яблавым я палоне?!
Пад разламаныя абразы
Выходзяць і кленчаць коні!

Моляцца коні?! Хто даў дазвол?
Дзе? У якім законе?!
І конюх выхапіў звыкла кол.
І ўсталі з каленяў коні.

Нібы ашалелі усім гуртом,
І ведалі, што рабілі,
І ў трэскі — яслі пад капытом,
І ў трэскі пад ім драбіны.

У конскіх зрэнках палаў агонь.
Стыў жах у людскім паглядзе.
Ды даравў яму кожны конь,
І кожны грывай пагладзіў.

## ГОТЫКА РЫГІ

Сяргею Шапрану

Хмары, нібы крыгі ў час паводкі,
Крышацца аб вострыя шпілі.
І пасіплі пеўні, як падлёткі,
Што з халоднай лужы папілі.

Высака
ў грабеньчыках-уборах,
З сонцам у спаборніцтве нібы,
Залатыя пеўні на саборах
Воблакам прычэсваюць чубы.

З небам пеўням весці перамовы,
Як паслам у годнасных чынах.
І дабрэюць стрэлы перуновы
У хвастах,
нібыта ў калчанах!

Але ж ёсць найпільная патрэба, —
Служба ў пеўняў
пэўна што не мёд,
Напінаць расхрыстанае неба
Над начною Рыгай, як намёт!

## КРУГЛАЯ ПЛОШЧА

Святкуючы перамогу,
Ордэн паднеслі і Богу.

Стараліся рабацягі —
А Бог не звяртае ўвагі.

Святар адслужыў малебен —
А ордэн, бач, не патрэбен.

Натоўп вірыў ля падножжа:
— Прымі, не пагрэбуй, Божа!

Глядзелі ў неба ўсе разам —
Маўчанне было адказам.

Вакол тае ўзнагароды
Снуюць галубоў чароды.

У іх кожны дзень любошчы
На ордэнаноснай плошчы.

* * *

Рыгору Барадуліну

Мова ўдыхнутая ў нас, як душа,
І падгасподніцай жыць не павінна.
Душу дастане лязо палаша —
І застанецца аглухлая гліна.

І застанецца змярцвелая плоць
Рыбінай, выкінутай на сушу,
Марна чакаць — а мо шчодры Гасподзь
Новую мову ўдыхне, нібы душу.

Вытхнецца дух ад віна з гладыша.
З дрэва упаўшы, збуцвее галіна.
Мова ўдыхнутая ў нас, як душа,
І падгасподніцай жыць не павінна.

## ЗВОН

Праз вушка званіцы заслаўскай царквы
У неба працягнуты срэбныя звенні.
І выскачыць хоча на злом галавы
Прывязаны звон у завулак завейны.
Ды зболены крык, што сягае да крыжа,
Званар у гірлянды нябесныя ніжа.

Падымуць іх хмары над белай зямлёй,
І вецер падхопіць, вясёлы і звінны,
Іх вежамі зловіць Сафія, за ёй
І Ганна Святая, азваўшыся з Вільні.
Наднёманскай пушчы уплёўшыся ў грыву,
Каложу адцягнуць яны ад абрыву.

Гірлянды, хто ўчуе вас там, угары?
Хто ўбачыць, як шлях вам высвечваюць знічкі?
Ля хаты завозніка п’яны стары
Гарлае, аблаяўшы хвост электрычкі.

У лес неапалы цягнік паўпусты
Заскочыць, заснежаны, і — дай Бог ногі.
Бярозы, як лісы, узняўшы хвасты,
Рыжэюць стажкамі абапал дарогі.

А места маўчыць.
Не стамляйся, званару!
Ды звон, разарваўшы жалезны замок,
Бы ў проламку, кінуўся ў чорную хмару
І, стаўшы, як люд, без’языкім, замоўк.

## РЭКВІЕМ СЯБРАВАЙ КНІЗЕ

Эдуарду Акуліну

Не на пляцы, не ў агонь вясёлы
З лапаў інквізіцыі святой,
Не ў сярэднявечны трыццаць сёмы,
Не ў спецсхоў, спавіты павутой,

Не у саван, белую прасціну
Апрануўшы — сцішся і ляжы…
Кнігу кінулі на гільяціну
Пад сляпыя вострыя нажы.

Верш безабаронны — што ж вы, што ж?!
Пад нож.
Край, дзе ліўні ходзяць басанож —
пад нож.
Бесядзь і зеленавокі Сож —
пад нож.
Маладзік, бяссоння не трывож…
Пад нож.

У паэта свята, як хаўтуры.
Што ёсць слова, вычутае звыш?
Сорак кілаграм макулатуры,
Дзе звіе гняздо рудая мыш.

Ты ж пацешся, янычар паганы,
Што, нібы паўмесяцы з нябёс,
Над айчынным словам ятаганы
Ты рукой асманістай занёс.

Не запоўз у сэрца здрады смоўж —
пад нож.
Не звініць у кайстры юдаў грош —
пад нож.
Служыш Беларусі? Анягож!
Пад нож!
Пакрамсаны ўпоперак і ўдоўж —
у кош.

Неба апрытомнее, заплача,
І сіло дажджу не разарвеш.
Каля д'ябальскай сячкарні скача,
Нібы певень, безгаловы верш.

## АБЛОКІ

Аблокам і няўцям,
Што яны таксама — нябёсы,
Што яны,
паўсталыя з балотнай твані,
іржавага туману
і ўчадзелага дыму,
Належаць яго Высокасці Небу.

Аблокі купаюцца ў сонечных ясвах,
Хаваюцца ад маланак
Пад парасонам вясёлкі,
Абдымаюцца наўзахапкі
З цёплымі паўднёвымі вятрамі.

Здавалася б —
узнёслым,
бялюткім,
апераным анёламі —
Навошта ім праскавышоная зямля?

Але аблокі
Цягам бясконцага поўдня
Стаяць і стаяць
над Радзімай.

## ТРЫ ІМГНЕННІ СВІЦЯЗІ

### I

Вісіць вясёлкі восілка
Над гаем і над лугам.
Пакручваецца возера
Ганчарным кругам.

### II

Падданая святла і лесу,
Йдучы няспешнаю хадою,
Бы з гліны боскага замесу
Ты вырастаеш над вадою.

### III

Плыве з-пад ног апірышча,
А сонца з хмар апальнае
Цябе спаймала ў прыгаршчы,
Як вазу для абпальвання!

## ДОЖДЖ

Дождж, пракраўшыся ў храм па карнізе,
Твар праявіць на белай сцяне.
І царква, нібы вежа у Пізе,
Нахіліўшыся, ў рэчку зірне.

Дождж абмые, напоіць, загоіць —
Лісце, вербы і фрэскавы твар.
Нібы неба пярэстае доіць —
За вяроўкі цягае званар.

Дождж стаіць ля царквы, як прыдзвернік,
Як ля хорама бедны сваяк,
Як ля храма разгублены вернік,
Што малітву не ўспомніць ніяк.

Дождж пусціце ў ладанную прошчу!
Ён стаміўся стаяць, грэшны дождж.
Ён ляцеў, разбіваўся аб плошчу,
Уставаў, прадзіраўся праз хвошч.

Дождж на звонніцу сеецца скупа,
Лёгкі, светлы, амаль што сухі.
Расчыніце не дзверы, а купал —
Дождж жадае замольваць грахі!

Дождж, ён марыў пра райскія кушчы,
Ды спагады людской не сустрэў
І пайшоў у паганскія пушчы,
Дзе ён сам — бог для кветак і дрэў.

Дождж…

* * *

Цягнік адсопся, рушыў да сталіцы,
Нырнуў у цемру, быццам у тунель.
Пакуль ты спіш, чакае на стальніцы
Недапісаны ў поўнач рытурнель.

Чыгунка натамлёная самлее,
На рэйках блісне месяц, як таўро.
Табе ж прысніцца бабка Саламея,
І соннік расшыфруе — на дабро.

А я, на шкле festina lente* сцершы,
Бы ваўкалак, імчу па цаліках,
Дапісваю нявыспаныя вершы
На ранніх і сіпатых цягніках.

На строфы іх прыпынкамі драбніла
Дарога, непадкупная, як лёс —
Драўляна-металёвая драбіна,
Што ўстане і дастане да нябёс.

Прыпол ёй беразняк лісцём услаў — і
Адбегся прэч, спыніўся неспадзеў.
Дасні мой сон у ранішнім Заслаўі!
Я, нібы сон, цябе недаглядзеў.

Цягнік і той, гамуючы, з аглядкай,
Кіўнецца ўбок няўклюднай галавой —
Туды, дзе ў хатцы, нібы уніятка,
Ты спіш паміж касцёлам і царквой.

---

*Спяшайся павольна (з лац.).

* * *

Хай навальніца не прыстане ліцца
І ў вокны б’е маланкаю і градам.
Мне лёсіла пад ранне наталіцца,
Каханая, тваім валасападам.

Ён прахалоду нёс засмяглым вуснам,
Ён целы атуляў салодкім хмелем,
Ён затуляў нас воблакам спакусным,
Ён налятаў дажджом свавольна-смелым.

Злавіўшы зайчык сонечны на твары,
Ён кідаўся на шыбу, бы з адхону.
І ўсе стажары, ўсе валасажары
Яму жадалі ўплесціся ў карону.

Каханая, пад калясніцай Феба
Сінее пазалочанае неба,
А мне, як хлеб штодзённы, ты патрэбна,
А мне, як сон штоночны, ты патрэбна.

Мой вечны ідал, з дальняе даліны,
Як пілігрым, ісці ўвесьчасна мушу.
Цябе Радэн выхукваў з мёртвай гліны,
Паэт нябесную ўдыхае душу.

Пад плюшчам ажывае камяніца,
Пад поўняй вецер прабяжыцца садам…
Мне лёсіла пад ранне наталіцца,
Каханая, тваім валасападам.

* * *

А мне? А мне, як кажуць, Бог не даў
Спяваць псальмы і танчыць паланезы.

Я воблакам спыніцца загадаў —
Яны з мяне смяяліся, гарэзы.

Я снег стварыў з метафараў і мар,
Я дождж сыпнуў на ружы поўнай жменяй…
Ды снег і дождж, няйначай, Люцыпар
Ператварыў у ліпеньскі прыпар.
А ты? А ты здзіўляешся ўсё меней.

У твой палац я лірнікам прыйду —
Скажы, каб слугі адчынілі брамы.
Я Песню Песняў для цябе складу —
Для гэтага я быў калісь абраны?

Я ў свет дабра спяшаўся. Не паспеў.
І з кубка піў над чараю Грааля.
Гучыць над краем твой чароўны спеў —
Без скрыпкі, без дуды і без раяля!

Хай слухаюць салоўкі у лясах,
Глядзіць багіня маладосці Геба,
Як маладзік з саломкі ў валасах
Тваіх, бы сонцам дадзены ў пасаг,
Заблытаўся й не вернецца на неба!

Ты з крымскіх гор у снах маіх бяжыш
У слуцкае вясёлкавае лета.
Кахай мяне, каханая, любі ж —
Адзінае, чаго як ласкі звыш,
Спакон вякоў вымольвае паэта.

* * *

З балкона ў неба
Вядзе лаз такі —
Анёл ці злодзей
Можа ўлезці.
Прышчэпкі за вакном,
Як ластаўкі —
Хвасты тапыраць,
Хочуць есці.

На свежаку прайме дрыготка.
Гасціна сёння, вер, такая —
Абрус ты сцелеш
Вер
  ты
    каль
      на.
Драўляных ластавак чародка,
Як за сталом, да рук звыкае.

## СВІЦЯЗЬ

Жнівеньскі купал нябёсаў заспаны
Ў фрэсках пункцірных вышэў над зямлёй —
Аж да відна Вадалівы і Панны
Знічкамі звыклі гуляць між сабой.

З небам радніцца — зайздросная доля.
Бераг наструніўся — не падыходзь.
Возера свеціцца, як жырандоля,
Што апусціў
У дуброву
Гасподзь.

## НА БРАСЛАЎСКІМ ЗАМЧЫШЧЫ

Летняга дажджу не дапытацца —
Сцішыцца ці не?
Маўчыць, трапней б’ючы…
Слізгае па хвалях, як па тарцы,
Лёгкі човен, на вачах драбнеючы.

Сонца долу вызірне вясёла
І ўсіх дбайна навучае грамаце —
Піша залатым пяром касцёла,
Абмакнуўшы ў хмарах,
Бы ў атраманце.

## ПАМЯЦІ ДУБА АДАМА МІЦКЕВІЧА Ў ШЧОРСАХ

Трыста летаў спяліў жалуды,
Дзвесце памятаў голас Адамаў,
Сто ў дупло не пускаў халады —
Свечку ставіў па ім на Дзяды.
Смерць сустрэў у абдымках кайданаў.

Тры стагоддзі — падлеткавы век.
Дык навошта заўчасная трызна?
Надакучыла доля калек.
Знімі шапку, Ojzcyzno.

Па-над голаю кронаю чуб
Зелянеўся пад ветрам вясёлым.
Абручамі задушаны дуб,
Бы ў каморы кадушка з расолам!

Не загадана лекаваць.
Дуба даў — пацвяляюцца здані.
Дзе ж мы будзем волю каваць,
Як дубоў на радзіме не стане?

Лес яловы задушна сапе,
Дзе гайсаюць нячысцікі збродняй…
Ён пярун выклікаў на сябе,
Каб успыхнуць адчайнай паходняй!

Абгарэў на ахвярным агні.
Каб да тла, да зялёнага гала,
Хоць грымотнае неба нагні —
У маланак запалу замала!

Як падзьме на світанні норд-ост,
Беларусь грубкі дубам напаліць.
З кожнай хаты да Бога наўпрост
Дым уздыме паветраны мост, —
Узнялася каб
Вечная памяць.

## МІЦКЕВІЧ У КРАКАВЕ

У касцёле — маліся й кленчы.
З цёмнай крыпты
Сырой зімою
У малітву прасіўся,
Калеючы,
Шэпт: O Litwo, Ojczyzno moja.

Зноў паэты не маюць рацыі.
Зноў скляпенні, нібы ў цагельні.
Прымусовай рэпатрыяцыі
Заслужыў пасля смерці геній.

Сніцца лета з дажджом-залевамі,
Сніцца Свіцязь… а тут ад смагі
З каралямі і каралевамі
Аж парэпаліся саркафагі.

Храм вялікі. Святыя рызамі
Захінуць і насвенцяць булак —
Ён сваім землякам бязвізавым
Палітычны дае прытулак:

“Сам хаваўся. Мой Край няславілі.
Слову ж нашаму — быць пачуту.
Збройны вершнік, на вежы Вавеля
Пажыві, перацерпім смуту,

Пану Богу святое самае
Пра радзіму шапні на вушка.
Глянь — уздыбіў каня над брамаю
Брат-ліцвін генерал Касцюшка".

Істамбул, Парыж — скрозь аднакава
Па чужыне брысці з сумою…
Скаланаў камяніцы Кракава
Шэпт: O Litwo, Ojczyzno moja.

## КАСКА АПАЛІНЭРА

Месье Кастравіцкі, вас любіць Парыж.
Хвалу уздае вам бяседа.
А ў небе лятак — нібы Юраўскі крыж
На фрэнчы вайсковым
У дзеда.

Накідвае лёс трапяткое ласо.
Вайна. Прышпітальная світа.
І сябра, як шэйха, пісаў Пікасо —
Чало, як чалмою, спавіта.

Да ложкаў казённых і мулкіх прывык —
Трымалі надзейна, як прывязь.
А там, у шпіталі, прысніў пухавік,
Што дзед з Наваградчыны вывез.

Над ім сам Гасподзь парасон распасцёр —
Махрыстага неба валокі.
З абліччам смуткім міласэрных сясцёр
Над ім навісалі аблокі.

Прытуліцца плюшч,
Далікатны, як плюш,
Да цмянай музейнае шыбы.
Як ціснуў яму франтавы капялюш!
Над Сенаю лепшы пашыў бы.

Ён ехаў дамоў
І прабіты шалом
Хаваў на гняздзечка галубцы.
А цені таполяў пад колы шыхтом
Кідаліся, як самагубцы.

* * *

Антаніне Хатэнцы

Ні слязой, ні абрыдлай звягой
Не дражніце душу на адлёце.
Правязіце мяне праз агонь,
Не зачэпіць ён грэшнае плоці.

Каб займала у фурмана дых,
Каб ірваліся восі на ўздыме,
Пара хуткіх гарачых гнядых,
Праімчыцеся ў іскрах і дыме!

Дым задумаўся, воблакам стаў,
Іскры космасу ў космы ўпляліся…
Першы косю, чаго ж ты прыстаў,
І другі, нібы ўскочыў у стаў —
Не вязуць, хоць прасі, хоць маліся.

Дай ім волю, вялікі Вялес!
Каб, як полымя, грывы віліся.
Ці, святарны карчуючы лес,
Коні тыя на стайнях звяліся?

Ці ў пагонях пайшлі наўздагон
За крыжамі на белых сутанах?
Разгаўляйся, высокі Агонь!
Ваўкалакам аббегшы вакол,
Перакінецца ноч у світанак.

Я на белым пламенні згару.
Ты ж замовай мне выкажы-вырай,

Як не схібіць, узняцца ўгару
І ў дзядоўскі прынебіцца вырай.

А задумае свару Сварог
І лампадкі сузор'яў аберне,
Зніч айчынных крыжовых дарог
Зноў з-за свету душу маю верне.

## ЧАТЫРЫ ПАКЛОНЫ ЛЕСУ

### I

У сасновым лесе маліцца…

Неба развіхурана вятрамі,
Выстудзіць ім рупіць белы свет.
Бог жыве ў нерукатворным храме,
Як сцвярджае Новы Запавет.

Кінуўшы на ўзлессі злосці прашчы,
Кленчыў продак, мяккі мох мясіў,
З прошчы гушчароў на лёс прапашчы
Наракаў і літасці прасіў.

На сасну са сну глядзеў зайздросна
Росным ранкам граб, малы, як грыб:
— Ой ты сосна, гонкая выросла… —
І на ветры, прышлы, сіп і хрып.

А сасна, а векавыя сосны,
Нацягнуўшы промні, як ніты,
Красна сонца ўсаджвалі за кросны,
Каб саткала пояс залаты.

Смольным мёдам поўны, нібы соты,
Бор знянацку учыняў спалох

І ў заходу, можа, ў раз двухсоты
Адбіраў бурштынавы пылок.

Дзяцел у жаўны пытаў: чыя ты?
Шэпты шыфраваў і галасы.
Вылезшы з дупла, ваверчаняты
Церабілі соснам кутасы.

З яру, як з-пад накрыўкі кадзіла,
Поўз туман сівушны на разбой –
Пад нагамі ў дрэў зямля хадзіла,
І хістаўся вершалінаў збой.

Кленчыў продак.
Ветру сумны найгрыш
Бурай адгукаўся наваколл.
Сосны моўчкі падалі крыж-накрыж
На ахвярна ўсланы гліцай дол.

II

…у бярозавым любіцца…

Мы высокай хваробай хварэлі.
Лекар наш — гай бярозавы — вось ён.
Атуляе свае акварэлі
Чорна-белымі рамамі восень.

Паспрабуй, дождж, на іх пасягні —
Хмары зрынуцца з неба, гайня як.
А ўжо ў іх на баках пісягі,
Іх бізун перуна даганяе.

Бліскавіцы разгневаны бівень
Прамахнуўся ў курган каля гаю.
Як праз марлю адцэджаны лівень
Пад бярозамі ў мох залягае.

З халадком незямным ён — няхай.
Страх прастыгнуць хіба ў галаве мне?
Ваша светласць бярозавы гай,
Мы ў чаканні твайго блаславення.

На каханне нас, гай, блаславі,
Запрасі ў церам свой, у святліцу,
Ў хорам свой, што як Спас на крыві,
На любові паўстаў і святціцца.

Сотні сот залатых дыядэм
Там развесіла восень-гандлярка.
Гэта намі чаканы эдэм,
Трыумфальная наша арка…

Потым, як на прачыстым стале,
Бы ў альбом захмялелыя госці,
На бярозавым белым ствале
Мы напішам пісьмо на бяросце.

Пройдзе доўгіх дзве тысячы год,
І, разгрэбшы сатлелае лісце,
Прачытае наш вечны народ,
Як жылі і кахалі калісьці.

III

…у дубовым волю каваць…

Нібы ў аблозе крымскае арды
Стаіць сярэднявечная фартэца —
Дуброва дрэмле, выслаўшы вятры
У поле з непрыяцелем сустрэцца.

Высока, куды вораг не дапне,
Чакаючы сігналу для атакі,

За пазухаю ў дуба, у дупле
Хаваюцца маланкі, як вужакі.

І прэч чужак паверне, сам не свой,
Пра свой намер забудзецца адразу,
Як поўня аднавокаю савой
Яму з-за хмараў крыкне пра паразу…

Чароды шэрых перыстых аблок
Прыціхлі ў шатах, нібы мышы ў стогу;
Адно на дол вялікі хтось звалок
І зацягнуў у сонную бярлогу.

Дзень цені, нібы парабкаў, найме,
Яны ж прылягуць — кіем не падперці.
І кожнай былцы вечнае наўме,
І мурашу прымроіцца бяссмерце.

І будзе ў борці одумна пчале,
Забудзецца ручай пра шлях няблізкі,
І ў сонечнай дубровы на чале
Распусціцца вянок капіталійскі.

## IV

…у яловым душу д’яблу прадаваць.

Яліны сочаць змену квадры
Пад месяцам, стаіўшы выдых.
Як пірамідам, з гэтай варты
Ім не сысці ў цяжкіх хламідах.

Дапільнаваўшы,
нібы магі,
Пачнуць над возерам гаданне.

Яно сплытчэе, як ад смагі,
Яго люстэрка чорным стане.

І з’явіцца маленькі чоўнік
На ўзбоччы месячнай дарожкі,
А ў чоўне скурчаны карчоўнік
Вадзяніку пакажа рожкі.

І лес заплача, зарагоча,
Заскача, задрыжыць, заенчыць,
Прадацца д’яблу не захоча
І ў немым сполаху закленчыць.

Не скінуць ноч, як той заплечнік.
Лес так занудзіцца па сонцы! —
Ды знікне сонечны сланечнік
Паміж аблок, нібы ў палонцы.

Яліны прыйдуць да палянкі,
Сумовяцца з жальбой у зрэнках,
Як местачковыя шляхцянкі
Ў даўгіх шмат’ярусных сукенках.

## ВЕЖА

Пасярод Еўропы горад Ніш,
Ты з бядой славянскі люд радніш.

Белай Вежы
Шматвяковы мур,
У жалобе бойніцы прыжмур.

Эйфеля
Ажурны ў неба мост,
Пачакай да зор сягаць наўпрост.

Вежа ў Пізе,
Пахілі чало,
Як бы там хістаць ні пачало.

Сцішся, Вавілонскі даўгабуд,
Хоць і ты паўстаў з людскіх пакут…

Над зямлёй хеопсаў і рабоў
Вышай вежаў, атамных грыбоў,
Вышай храмаў, саляных слупоў —
Вежа з чалавечых чарапоў.

Найвідушча
Навакол глядзіш
Са сляпых вачніцаў,
Горад Ніш.

Турак з ятагана кроў саскроб.
Вежа са шляхоў людскіх не збочыць,
Нібы з таго свету перыскоп —
Царства мёртвых
За жывымі сочыць.

## НАЗІРКАМ

Неба, нібы трамвай, пагрымвае.
Дахі вусацяцца ад капяжоў.
Дождж з настойлівасцю пілігрымавай
Моўчкі ў нямераны шлях пайшоў.

Ліст апошні, як мара, лётае.
Парк нагола бароды згаліў.
І дрыжаць ліхтары жаўтаротыя
Ў гнёздах, сплеценых з мокрых галін.

* * *

Кастрычнік. Дажджоў аблога.
Горад антэнарогі
Наставіў ад ветру злога
Каўнер кружное дарогі.

Прыселі на ржышча гуртом шпакі —
Пасаймікавацца трэба.
Таполі, як венікі-галякі,
Размашыста драпаюць неба.

## СЛУЦКАЯ ШАША

Дарогі выгінастае ласо
Зашморгнута на шэрым небакраі.
Хаваецца таполі пад крысо
Дым з вогнішча, што ў полі дагарае.

Пагрымвае парожняе вядро —
Зноў дождж грыбны пайшоў убок, на Грозаў.
І поўні залачонае ядро
Ляціць паўзверх спалоханых бярозаў.

## ЗЭЛЬВЕНСКІ КАПЕЖ

Кот схавацца паспеў пад павець.
Дождж па вуліцы крочыць. Бязлюдна.
На веранду залазіць няўклюдна
Вінаград, як зялёны мядзведзь.

Пад страхой павуціна трымціць.
Між зямлёю і небам — ратуйце! —
Скача кропля, нібы на батуце,
Ёй хутчэй прызямліцца карціць.

Сонца цягне з падхмарнай імжы
Круг вясёлкавы, пругкі, як пяльцы.
Ды ўцякаюць свавольнікі-пальцы
На зямлю — заплятаць капяжы.

Праз падворак, панылы і коўзкі,
Промні — скок і давай навісу
Заплятаць у тугую касу
Незлічоныя тонкія коскі.

## ГОРАД

Ізноў вяльможны ягамосць
Мяне пільнуе ў хворым парку.
Ён мой, ён мой каменны госць,
Ён госць, з якім не вып’еш чарку.

У белым прадзіве бяроз,
У шэрай павуціне клёнаў
Трапечацца сузор’е Воз
Без нараканняў і праклёнаў.

Я крыкну, выклічу цябе.
Сяброў каменных мне не трэба!
Па вадасцёкавай трубе
Мой голас выльецца у неба

І там, падслуханы віжом,
Заплача пра зямное шчасце.
Вяртацца будзе капяжом,
Каб да каменных ног упасці.

## РАНІЦАЙ

Печ — на хату прыполам белым,
Бы пацвельвае — чухані.
Б'юць вагнішчу чалом спатнелым
Кучаравыя чыгуны.

А на печы трыбух авечы —
Футра княская на плячы.
Казыталі
            пад пахай печы
Ў качарэжніку рагачы.

Дым вылётваў на пацягушкі
І за ветрам імчаў — чуйдух.
Зачыняліся раптам юшкі —
Ажно засланкай бразгаў дух.

Мулка ў кроквах было лясінам.
Кот учадзелы пхаўся прэч.
Прыпек змёўшы крылом гусіным,
Млела з жаркасці пані-печ.

* * *

Вуліцы места маўчаць без’языка.
Цягнуцца цугам праз парк ліхтары.
Грае ў тунэлі на скрыпцы музыка —
Холадна музыцы жыць на двары.

Вецер-байчак з-над Татарскіх гародаў
Плошчу ў абдымках гуллівых крутне,
На ўкамянелым гармоніку сходаў
Вытне напеў, што расчуліць мяне.

Не паланез, не ваярскія гімны,
Нешта — каб слухалі дрэвы і гмах,
Каб разгавеўся, пануры і схімны,
Смехам гірляндавым вечар-манах…

Нібы вяртаючы сябру пазыку,
Што меркаваў быў — вазьму ў падарож,
Кіну я сумнаму ветру-музыку
Ў шапку апошні заношаны грош.

## КУДЗЕЛЯ ЗІМЫ

У сумётах двары сядзелі.
Вырасталі дымы ўвачавідкі —
Быццам хаты пралі кудзелю,
З белых хмараў цягнучы ніткі.

## НАЎЗДАГОН СНЕГАПАДУ

Калі апаноўваюць чорныя думкі,
Калі аджыўляемся чорным хлебам,
Калі купальскую песню
адразу ж заглытвае чорная дзірка,
што пасецца ўвесь час над Айчынай,
і пануе маўчанне;

Калі смакуем чарніцы не языком, а прыборам,
Калі нават магічны выгук Уладзіміра Дубоўкі
“чарнобылем не зарасцеш!”
не дапамагае —

Ты вяртаеш маёй Радзіме
сапраўднасць
Яе белага імя.

## ПАЛЁТ

Хрысціне Лялько

Купалы царквы — як паветраныя шары,
Надзьмутыя лёгкім дыханнем ладану,
Прывязаныя да зямлі
Тонкімі срэбнымі ланцужкамі
Дзіцячых галасоў на хорах.
Пад нязмірглівым позіркам свечак
Купалы летуценяць
Пра вольны завоблачны свет.
Гатычныя вежы касцёлаў
Нецярпліва ўздрыгваюць
У прадчуванні імклівага старту,
Прыкінуўшыся міжзорнымі караблямі.
І ў гэтым замёрлым чаканні
Уся Заходняя Беларусь
Нагадвае вялізны касмадром.
Але прыгажэй за ўсіх
Узлятаюць кітайскія пагады,
Глядзіце — яны ўжо прыселі
І ўзмахнулі павольнымі крыламі.
Ды як адарвацца ад зямлі
Касцёлам і цэрквам,
Пагадам і мячэцям,
Калі столькі грахоў
Пакідаюць людзі ў спавядальнях?

І раптам прымроіцца —
Храмы ўзляцелі!
І ўсё чалавецтва
Раз-пораз паглядвае ў неба,
Дзе лётаюць храмы,
Пазвоньваючы ў званы,
Прычашчаючы зоркі,
Прымяраючы месяц
На вострыя спічакі.
І дзіўна — усім даспадобы
Той экуменічны палёт.

## ВІРЫ

Рака Беларусь
З двухбаковаю плынню —
На захад і ўсход —
Няспынна цячэ.
На ўсход у пірацкіх імклівых пірогах
Вывозяцца скрыні з дабром,
Бясконца плывуць вязанкі плытоў —
Падсочаныя да галавакружжа
Сасновыя бары,
Намоклая воўна аблокаў,
Адбіткі купальскіх вогнішчаў.
Панура сядзяць на лодках
Сцяпан Палубес,
Манах Сімяон,
Шляхціч з Дастоева.
Зваротная плынь прыносіць
Попел Скарынавых кнігаў,
Кроў мсціслаўскіх недасекаў,
Чорныя галавешкі.
На захад —
Сплаўляем слёзы,
Назад —
Прыплывае маўчанне.

Ды пераймаюць ля стромы раку
І таемна глыбіняць,
І адводзяць у ціхія старыцы,
І не сплываюць нікуды
Віры.

## КРАСАВІК ПА ДАРОЗЕ Ў ЗАСЛАЎЕ

У бярозах, бы ў бутлях, дабродзіць віно.
Над балотцам пашэрхне туману націна.
Пасажырам відно — электрычкі акно
Верхавіны сцінае, нібы гільяціна.

Спалатнелы, не можа адбегчыся гай
Ад чыгункі, чый гулкі пароль — паскарэнне,
Як за клейкія кроны сябе ні цягай,
Як угору ні рвіся — трымае карэнне.

Як русалкі зімой валасамі у лёд,
Так бярозы адчайна уліплі ў нябёсы!
І стаіць, як ляціць у апошні палёт,
На разрыў прыкайданены гай светлакосы.

Гай мой, гаю, акраса вясновай зямлі,
Ваша светласць, ахвяраў дарэмных не трэба...

А пацешнае, як на яго ні зірні,
Выглядае ў налепках бярозавых неба.

* * *

Варожыць ноч на месячным акрайцы,
Мярэжам цемры прагнецца ахвяр.
Бярозы даўгавухія, як зайцы,
З апошніх сіл бягуць у промнях фар.

Чырвонае вуголле выграбае
З начы, як з печы, слуцкая шаша.
І поўня хваравітая, рабая
Хаваецца між хмар ад скавыша.

Маўчыць зямля на пракаветнай мове,
Маўчаць нябёсы над бязмоўем рэк,
Лясы замоўклі — горасна-раптове,
Замоўклі птушкі — скрушна, бы навек.

Ты, чалавек, не шыйся ў чарнабожжа,
Адпрэч бяседу з духамі начы.
З таго маўчання выбавіць не зможа
Цябе ніхто. Ты ноч перамаўчы.

Перачакай у сутаргах і свербе,
Стрымайся ля апошняе мяжы.
Як Чэхаў перад смерцяю: ich sterbe*
На мове на чужацкай не кажы.

Як да маўчання цяжка прыцярпецца!
Яно — як для гульца манаскі скіт,
Дзе свечкі благаславёнае цяпельца
І цені ад агню бягуць наўскід.

Ды прыйдзе дзень, як сын святога зніча,
І ў галасе патануць долы й гаць,
Ячмень вусаты сонца заказыча,
Каб жаўранку на забаўку аддаць.

---

*Я паміраю (з ням.).

## НАШЭСЦЕ ПОЎНІ

Чарнагрывым лясам за каршэнь,
Як на пільні апілкі з мяха,
Як паўзлоткі ў кашэль ці ў кішэнь,
Залатая ляціць церуха.

Каб заспаны пачухаўся лес,
Ажыла ніцавокая ноч,
З вышыні — мае свой інтарэс —
Пані поўня глядзіць аднавоч.

Не зміргне,
І ў спалоху зямля
Пачынае трымцець і дрыжаць.
Лес здранцвеў ад галін да камля,
І каменням трывожна ляжаць.

Не мячы
Бразгацяць па тарчы,
Не капыціць дарогу арда —
А ніяк, нікуды не ўцячы,
З поўняй ходзіць па свеце жуда.

Мегаполісны сцішыўся гул.
Павута
У суцьменях камор.
Цэлы край, нібы той самнамбул,
У бязвольным чаканні замёр.

Толькі конік, адчайны скрыпач,
Будзіць поплаў і жытні загон…
Поўня, як вастрабокіківач,
Набірае ў зеніце разгон.

## НАЧНЫЯ СТРОЧЫЦЫ

Драўляны храм з Прынямоння
Прывезлі ў новы прыход.
А тут наваколле нямое,
Не йдзе на імшу народ.

Вясковыя вулкі крывыя,
Ні святара, ні людзей.
Нячысцікі клічуць Вія,
Сабраўшыся на грудзе.

Музейны не рыпаўся ганак —
Хто ў хату прайшоў патайком?
Жагнацца спрабуе ранак
Здранцвелым за ноч ветраком.

## ХРЫСЦІЯНСТВА

Свет гэткі галавакружны!

У чалавецтва кружыцца галава
Ад эверэстаў, парнасаў, п’едэсталаў,
Малакроўя, полькі беларускай, кахання,
Ніцшэ, дыму айчыны, $C_2O$…

І чалавецтва збіваецца з тропу,
Губляе арыенціры,
Роспачна азіраецца навокал,
Ловіць у ветразі ружу вятроў,
Хапаецца за звыклыя восі х і у,
Тузаецца ў трохмернай прасторы, —
Дарэмна: свет стае лабірынтам.

І толькі сістэма каардынат Крыжа
Вяртае людзей на сваё месца.

* * *

Аляксею Марачкіну

Мастакі — кватарантамі ў Бога.
На паддашках гасподы ў іх ёсць,
Там сваячкай вясёлкі — падлога,
Сонца там — найжаданейшы госць.

У майстэрнях у іх паднябесных,
Дзе тварыліся цуды шматкроць,
Ты пашлі ім высокую бессань
І ў чало пацалуй іх, Гасподзь.

Блаславі і заданне ім вызнач,
Нездарма ж багамазы яны.
Уздыхне жаўтавокая Свіслач
І навяжа чаўны-маўчуны.

І мастак, што не ведаў паклона
На чужой іншамоўнай імшы,
Здасца сам у палон Апалона
І вясёлку дастане з душы.

А станцуе прамень на мальберце,
І прыдрэмле мастак, каб сасніць,
Што касой, адабранай у смерці,
Добра ў лузе атаву касіць!

* * *

Алесю Шатэрніку

Бярозаў табун на скаку
Спыніўся на самым адхоне.
На камені пры бальшаку
Мастак высякае Пагоню.

Ён сорак зубілаў ззубіў,
У кроў намазоліў далоні.
Усходзіла сонца — ён біў,
Заходзіла сонца — ён біў,
Пра клопат астатні забыў —
Ён волі хацеў для Пагоні.

Каменны патрэбен ёй гарт,
Гарачыя конскія ноздры,
І рыцар-кавалергард,
І меч у руках яго востры.

Ад шоламу і да падкоў
Той камень Пагоню трымае.
Расплюшчыўшы сем малаткоў,
Мастак адпачынку не мае.

Вакол на вярсту — ні душы,
Дарога, як неба, пустая.
А вершнік імкне да шашы,
А камень у дол урастае.

* * *

Нябёсаў выпераны шэры ток
У лістападнай стыне пазалоце.
Сабака рыжы,
як электраток,
Ахвочы сноўдаць па напятым дроце.

Час развітання і спакою час.
Глядзіш навокал і вачэй не зводзіш.
Плот. Агарод. На падваконні прас.
І як тунель у ЗША — калодзеж.

Вісяць начоўкі чоўнам без вясла,
Паточаныя на сцяне іржою,
І дзічка, што ў падмурак урасла,
Усё — як патойбочнае, чужое.

І ўсё ж вяртацца хочацца сюды
І доўга слухаць на падворку хаты
Далёкі ўсплёск калодзежнай вады
І рэха, што не эмігрue ў Штаты.

## ДЗВЕ КАСЫ

Касіў дзед канюшыну.
Упаў на пракос і памёр.
Меўся ехаць да млына.
Там і застаўся памол.

На прыволлі-раздоллі
Дацвітаў дзівасіл...
Быў пан волі і долі —
Стаў раб божы Васіль.

Лезлі ў вочы рамонкі,
Казытаўся чабор,
Не змаўкалі жаўронкі…
Дзед не чуў, ён памёр.

Касінерам пры зброі, —
Дзед з касой, смерць з касой, —
Згінуў ён у двубоі
І умыўся расой.

А конь бегаў па крузе
І глядзеў праз аўсы,
Як схапіліся ў лузе
Між сабой дзве касы.

## ДОЖДЖ, АДАЖЫО, ДРУЗГЕНІКІ

Ірыне Багдановіч

I

Мне гэты дождж нябачны даспадобы
І мокры плюшч, і павуцінне дрэў,
Фантанаў мармуровыя аздобы
І храм, што самаўспыхнуў ад жалобы
І Янам Гусам на кастры гарэў.

Легкавікі, залапленыя лісцем,
Схаваліся у прыцемак двароў
Ад шаравых маланак ліхтароў,
І дождж ім бачыўся адзіным выйсцем.

Нячутна падымалася трава
Над старадаўнім заімшэлым тынам.
Старая распанелая Літва
Дзяўчатаў закальцоўвала бурштынам.

II

Ноч наплывала, як сляза.
Усё было з прыстаўкай аква —
Дамы, каштаны, дзераза,
Што восеньскім дажджом набракла.

Аквачаўны. Аквалісты.
Аквасцяжына. Акваклумбы.
Аквапаветра. Акваты.
Чурлёніс, нам абодвум любы.

А там, дзе растварыўся свет
Між берагамі левым-правым,
Аквапаэзію паэт
Чытае над сцішэлым ставам.

Паэт чытае, рэй вядзе,
За чоўнам — аркушы паперы.
Карціць прайсціся па вадзе,
Ды не хапае трошкі веры.

* * *

Два дыханні: у суме — душа.
Сум таксама вазьму падсумую.
Мы пілі з аднаго гладыша,
А з бяссоннем сам-насам сумую.

Як сумёт, як саман, як самум —
З галавой накрывае самота.
Па пылок залаты (о, аум!)
Паляціць — пабірацца — мой сум,
Бы ўначы светлячок самалёта.

І бедлам у душы й тарарам.
Грэх з малітваю як палагодзіш?
Ты сама — як двухкупальны храм,
Калі з возера светла выходзіш.

Ты ля белай царквы пастаіш,
Вас нямогліць намоклая глеба,
Ды царкву
                срэбнай ластаўкай крыж
Доўга цягне й выцягвае ў неба.

## ХРЫШЧЭННЕ

Па-над язычніцкай дуброваю
Навісла сонца булава.
Я ўсё, я ўсё табе дароўваю
За сузіранне хараства.

У доўгі дзень, імгненні, звіцеся!
Раскінеш рукі на вадзе —
І ўсё паганства прападзе:
Ты — як нацельны крыжык Світязі!

* * *

Зноў мы ў лясах над Ясельдай і Шчарай.
Багдадскі злодзей лета наша ўкраў.
А восень пачала збіраць гербарый —
Гербоўнік пушчаў і садоў, і траў.

Музей лясны — каўчэг, дзе ўсе папарна:
Звяры і птушкі, матылі і мы,
І хай бы ён натрапіўся нямарна,
А перавёз нас на той бок зімы.

Ішлі б сумёты ў белую атаку,
Гулі б шалёнагрывыя вятры,
А мы з табой прыселі б на атаўку,
Дзе пасвяцца лагодныя зубры.

Дзе лебедзі ў лілеях ловяць зоркі,
Нібы на дыванах Алены Кіш,
І хлебны мякіш з рук бяруць вавёркі,
І мілата й спакой сыходзяць звыш…

Няўзнак прайшлі б каляды і грамніцы,
А я згадзіўся б сто начэй не спаць
І вушка з дзірачкай ад завушніцы
Пяшчотна, як пялёстак, цалаваць.

* * *

Дождж да мора бег наўскасы,
Выдма бегчы наўпрост не давала.
Мора шаблю Куршскай касы
Ў хвалях пеністых гартавала.

Вецер выцерся аб туман.
Блякнуў свет. Разышліся двое.
Наўздагон ім стары каштан
Трос калючаю булавою.

* * *

Л.

Зіма. Галчынскі на стале.
Цень ад заснежанага вяза.
Пакой у месячным святле —
Як парцалянавая ваза.

Прасцінаў бель і столі бель,
І белы снег ідзе у госці.
І ложак — белая купель,
Дзе мы купаемся ў мілосці.

Нястрымных стрэлак страказа,
Табе мы як сапраўднай рады.
Твой час звініць, як драбяза,
Над намі ён не мае ўлады.

На ўскрайку светлае начы,
Над безданню, што кліча ўпасці,
Два залатыяківачы
Адлічваюць хвіліны шчасця.

## БІЛЬЯРД

Штовечар шар сонца
Пасля ўдару нябачнага кія
Коціцца па небе й цікуе:

Ці паспее наставіць зямля
Лузу вулкана.

## У ДОЖДЖ

На ветравым шкле —
Разбягаюцца рэкі,
Павуціна вады.
Іх хуткасць
Прапарцыянальная
Хуткасці аўтамабіля:
100 на спідометры —
І рэкі пульсуюць,
Таймуючы шал ніягары,
І нават імклівяць угору.
Прытармозіш — і рэчышчы
Ірвуцца і блытаюцца.

20 800 беларускіх рэк
І два мільёны астатніх
Просяць Зямлю не спыняцца.

## ПАЛЕТАК ЛЕТА

Па ярах і далах пошум ніцы.
Поўдзень сцішыўся многагалосы.
Промні сонца і промні пшаніцы
Запляліся ў супольныя косы.

Пры дарозе забытае прасла
Выгравае на сонцы сукі.
А між тых залатых перавяслаў
Песні Богу пяюць жаўрукі.

## ВОСЕНЬ СВЕТЛАЯ

Віктару Вабішчэвічу

За Давыд-Гарадком у возеры
Лес адмочвае чуб іржавы.
Дождж сабралі і павывозілі
Хмары — сонныя дырыжаблі.

На балоце, дзе спее ягада,
Дзе таемная дрэмле сіла,
Журавель узлятаў, як пагада, —
Лёгка-плаўна-шырокакрыла.

## ВЕЧАР ПЕРАД КАЛЯДАМІ

Ціха, як на бязлюднай планеце.
Мароз без разбору
Лезе да ўсіх цалавацца.
У хатах вясковых
У грубках і печах
Развітваюцца з жыццём дрэвы:
Як васковая, растае сасна,
Сіпяць спалоханыя асіны,
Адстрэльваецца елка,
Бяроза пацвельваецца з агнём,
Паспяваючы пакінуць тастамант
На скручанай закуранай бяросце…

Дымы падымаюцца з комінаў
І стаяць над сцішэлаю вёскай:
Цэлы лес цёплых
Прывідна-хісткіх дрэваў.

У высокай кроне
Мосціцца нанач
Нябачны пугач,
Прыплюшчыўшы
адно вока.

## ТРЫ СЛЯЗЫ

Ах, якія слаўныя маразы!
Прымярзлі да месяца тры слязы.

Тры бяды, тры роспачы, тры душы,
Тры на смак салёныя ледзяшы.

Сонца промень кінула раз і два —
Не сагрэла месячнага сяйва.

Зоркі неба крэслілі давідна —
Ды не стала крэсівам ні адна.

Быццам цацкі з елачкі ў дзень Каляд,
Тры слязы ўпрыгожвалі далягляд.

Пахісніся, месячык, тры разы
І страсі на дол тыя тры слязы.

Ім аддасць зямля свой вясновы ўздых —
І памкне рака са слязінаў тых.

Панясе чаўны і залье шляхі,
І апошні крык кіне ў вір ліхі,

Невады парве і кашы з лазы…
А было ўсяго толькі тры слязы.

Гэй, каго паром праз раку вязе?
Як плывецца вам па маёй слязе?..

## НАД ВЯЛЛЁЙ

Таццяне Грыневіч

Плыты мінаюць выспу астраўка,
Дзе плынь ірве пастронкі між каменняў.
Як захаплёны піяніст, рака
Перабірае клавішы бярвенняў.

Касцёл у лесе сніць свой доўгі сон.
Дарогаю лясной ніхто не едзе.
Бывае, ранкам у бяссонны звон
Пазвоньваюць бурклівыя мядзведзі.

Касцёлы адгукаюцца здаля,
І маладзее лес парою гожай.
І пілігрымам стомленым Вялля
Прыціхла ля падножжа Маці Божай.

## СЭРЦЫ

### I

Загадкавы польскі звычай:
Вялікіх палякаў
Хаваюць у розных месцах —
Па частках.
І насамрэч,
Каму ён паскардзіцца,
Бессардэчны нябожчык?

І пульсуе сэрца Шапэна
У варшаўскім касцёле
Святога Крыжа,
Ажно ўздрыгваюць
Мармуровыя скляпенні.

І марнее ў каменным мяшку
У крыпце касцельнай
Сэрца прафесара Лелявеля.
А ён у сэрцы тым самым
Выношваў дэвіз:
“За нашу і вашу свабоду!”

І б’ецца сэрца Пілсудзкага
На віленскіх могілках Роса.
Іх насельнікі без піетэту
Паводзяць сябе,
Бо тут Polska zgineła.

II

З Мікашэвічаў ён ці з Карары —
Мармур
          дасупакоіць імша.
Ружа сэрца не хоча ў гербарый!
Матыльком над ёй кружыць душа.

Скрыпка. Смык. Мілажальнае скерца.
Цвердзь зямную пранізвае крык.
Пан Шапэн
                быў схапіўся за сэрца, —
Але сэрца няма, Фрэдэрык.

## ГАРАДОК НАД ГАРЫННЮ

Леаніду Дранько-Майсюку

I

Гэта бачыў хіба Адысей,
Калі карабель ягоны
Урос у пясчаны бераг
Празмерна гасціннай выспы.

Ільсніцца на сонцы Гарынь.
Што сніцца вам, лодкі старыя?
З вас, нібы з вазаў, дрэвы растуць.
Вярба ўкаранілася на карме —
Самы надзейны якар.

Створаны з гліны — і станеш зямлёй.
Зроблены з дрэва — і вернешся ў дрэва.
Агонь імкнецца да сонца.
І толькі вада, як першаматэрыя,
Плыве і плыве бясконца.

II

Як ты блешню памяці ні кідай,
Летапісны ловіцца радок:
Смуткаваў Давыдаў Гарадок,
Калі тут памёр паэт Авідый.

Не палохаў пойменны разліў,
Вецер не раздзьмухваў папялішчы —
Тыя ж вербы над ракой раслі,
І чаўны на сонцы грэлі днішчы.

Чула сонцавокая Гарынь
Цётак галасы, што сена грэблі.
Verba — адгукаецца латынь,
Вербамі не грэбуе ля грэблі.

Дзень ідзе ў надрэчны халадок,
А дзятва — на замчышча ў атаку.
І відно — Авідый-Гарадок
Прапісаўся на дарожным знаку.

## ЦІШЫНЯ

На вежы касцельнай —
Звон анямелы без біла.
І касцёл праз шырокае поле
Доўга цягнуўся і ўрэшце
Мэты сваёй дасягнуў —
Хоць крыжам адным
Адлюстравацца ў возеры.

Стаю і слухаю,
Як ціха шапаціць
У рэзгінах бярозы
Сена дажджу.

## МЕЧ

Грахі зямныя цяжкія, як гіры.
Калі ж імя зняславіў і свой род,
Японец учыняе харакіры —
Мячом кароткім б’е сябе ў жывот.

З Краіны Узыходзячага Сонца
Па ўласнае ахвоце самурай
Без роздумаў трапляе сам у рай.
Я разумею мужнага японца.

А тут не проста выквацаў гербоўнік,
А сам у брудзе па самюткі пах,
Цара Васпасіяна паслядоўнік,
Якому медны грош г…ном не пах.

А тут накрэслена на лобе: Каін,
І сківаца асліная ў руцэ.
А мы з хлуснёй дакучлівай звыкаем,
Як з плынню каламутнай у рацэ.

Ды прыйдзе час — заслужанага дзеда
Унук падсадзіць выспяткам на печ,
Падаўшы з міскай-лыжкай да абеда
Неміласэрны самурайскі меч!

* * *

Край стаіўся ў пятлі насцярожаных межаў.
Поўня вызірне з хмар і зашморгне пятлю.
Серабрыстыя фаласы сіласных вежаў,
Закаханыя ў неба, бяссіляць зямлю.

Край, дзе човен сумуе, да выспы прыпаўшы,
Дзе дажджы, нібы ў жорны, цярусяцца ў вір,
Дзе каровы ступаюць, рыкаючы, з пашы,
А паэты ідуць спадцішка ў манастыр.

Там людское жыццё — рэпетыцыя смерці.
Край, у венах якога блакітная кроў, —
Арытмічнай Еўропы старой перадсэрдзе, —
Удыхнуў наркату азіяцкіх вятроў.

Край, дзе люд паспаліты хаўтуры, як свята,
Адзначае, дарма, што ў душы — тарарам.
Дзе не можа ніяк — увесьчасна занята —
Дазваніцца да Бога адноўлены храм…

Не зялёны валун, што бакі паадлежаў,
І не бусел, што ў Афрыцы вынайшаў рай,
Серабрыстыя фаласы сіласных вежаў —
Вось твой сімвал, заціснуты зашмаргай межаў,
Закаханы у неба свабоднае Край!

## НА АД’ЕЗД З ЛУНІНЦА

Таццяне Канапацкай

У імя Святога Духа,
Сына і Айца,
Пройдзе хай бяда і скруха
Міма Лунінца!

Неба ластаўкаю сшыта,
Пад нагамі — цвердзь.
Несмяротна спее жыта
Над рачулкай Смердзь.

Галілея разумею,
Ды сярод раўнін
Болей веру Пталемею,
Што зямля — як блін.

Бачыць вока, чуе вуха
Ўсіх, хто з Лунінца.
Там і чарка-расхадуха
П’ецца без канца.

— Хто ты будзеш? — Акавіта.
— А з чаго ты будзеш? — З жыта.
— Пашпарт пакажы. — Няма.
— Раз няма, табе турма!

Не гудзе ў таполях гонкіх,
Спіць даўно шаша.
І трымціць, уся ў жаўронках,
І пяе душа.

## ОДА ЛАЗНІ

Як вярнуся здалёк дамоў —
Пыл дарог абтрасу далоў,
Ці пясок, аці сапрапель
З мора Чорнага ці саванны…
Не завабіць мяне ў купель
Дамавіна чыгуннай ванны.

Далікатным дажджом не руш
Маё цела, бяздушны душ!
Дробных таксападобных ножак
Ёй бракуе, і ўвесь кураж,
Ванна — гэта пракрустаў ложак:
Не ўмяшчаешся, як ні ляж.

Лазня ж — як біблейскі чысцец.
Трэба ў лазні бываць часцей.
У парыльні — вароты ў рай,
Нібы выйшлі на волю вязні…
Хвошча венікаў цэлы гай.
Я люблю лістапад, што ў лазні!

Толькі ў лазні мы ўсе — адно.
Толькі ў лазні усё відно.
Лазня — свята ў будзённы дзень.
Лазня ў дружбе — асноў аснова.
Толькі ў лазні сквірчыць камень.
Толькі ў лазні — свабода слова.

Скажам шчыра: усе мы з хат,
Дзе часамі — матрыярхат…
А ты ведай сабе цану
І сваіх не губляй амбіцый.
Захінуўшыся ў прасціну,
У прымыльніку ты — патрыцый!

Ёсць і ў лазні пан-гаспадар —
Чуб бялявы, чырвоны твар.
Ён агню і вадзіцы брат,
Ён палка й камінка уласнік,
Ён папарыцца з вамі рад —
Дабрадушны, вясёлы Лазнік.

Ён нячысцікам не радня.
Лазнік мыецца сам штодня.
На Люцыпаравым пайку
Лазня век не была, паверце.
Хто пяклуецца на палку —
Таго ў пекла не возьмуць чэрці!

## ОДА БАРАЗНЕ

О баразна — беларускі акоп!
Хай дыктатура ці мор у краіне,
Хай землятрус ці сусветны патоп —
А беларус баразны не пакіне.

Хай сабе скогат зубоўны ці плач
Зранку да вечара ў роднай старонцы —
Зброя адна ў беларуса — капач,
Поза — паклон паясны і бясконцы.

Пнецца ў сваю баразну маладзён.
Пхнецца дзядок, хоць і ўспёрся на кульбу.
Хоць над ляском ужо месяц відзён,
Людзі шукаюць, як золата, бульбу.

Не зачапай, не цвялі, не трывож.
Не дакучай на цымбалах ці лірах.
Глянь, як ляцяць самародкі у кош —
Будуць і клёцкі, і бульба ў мундзірах.

О баразна, наш прытулак і сховў!
Дзе, як свярэпка, раслі пакаленні.
Не вызнаваў аніякіх багоў
Дзядзька, а ў полі дык стаў на калені!

О баразна, эратычны пейзаж!
Ты нам штовосень — і пеклам, і раем.

Поле — штодзень, навакол і наўсцяж,
Дзе мы кахаем, жывем, паміраем.

Рукі ў парэпінах, зморшчаны лоб,
Іншых памкненняў няма ані знаку.
О баразна — беларускі акоп,
Скуль нам аднойчы ісці у атаку.

## ОДА ШЛАГБАЎМУ

Мне збрыдзеў дух бульбяна-агародны,
Ад сагаў пра рахманасць — Божа збаў.
Вось сімвал твой, забыты краю родны, —
Пярэсты, у палосачку, шлагбаўм.

Яму заўжды я невыказна рады.
Ён стаў пейзажам нашым не чужы —
Спыняе рух імклівай аўтастрады
І чэргі рэгулюе на мяжы.

Пільнуе раздарожжы, найхарошы,
Нястомны, незгінальны працаўнік.
Ён для краіны зарабляе грошы —
На пенсіі, на школы, на пікнік.

Пад колы фурам кідаецца, смелы,
Тармозіць джыпы з піцерскай братвой…
Шлагбаўм мой родны, бел-чырвона-белы,
Як можна не заўважыць подзвіг твой?

А я заўважыў і ў якімсь нясцерпе
Падрэзюмую тутака й цяпер:
Ты варты быць на гістарычным гербе —
Пагоня скача хай — цераз цябе!

Зямляча, беражы шлагбаўм, як вока,
На дровы не сячы яго, не руш.
І перад ім, як едзеш дзе далёка,
Спыніся і здымі свой капялюш.

# З новых вершаў

(2013-2016)



## КРЫВІНКА

З манастырскай рызніцы ўночы
Са спадзеўкаю на барыш
Два разбойнікі скралі крыж.
Залаты, ён сляпіў ім вочы.

Хто аслеплены быў здабычай
Больш і марыў пра лішні грош,
Той другому — бандыцкі звычай —
Уваткнуў пад рабрыну нож…

Збыўшы золата, вяззю срэбнай
Ён аздобіў тронак нажа.
Заставалася непатрэбнай
Кроў Ісуса Хрыста з крыжа.

І па ўсёй той зямлі нябеднай
Сто цароў і сто ліхвяроў
І шчарбатай капейкі меднай
Не далі за Хрыстову кроў.

Той крывінцы на касавінцы
Рады быў вінароб — відно,
Ён прыняў яе за суніцы
І дадаў для смаку ў віно.

І пранеслася чутка звонам,
Яе вецер па свеце нёс,

Што ў віне тым, як кроў, чырвоным, —
Сіламоц, што сышла з нябёс.

Тым, хто піў яго, аніколі
Не дурманіў галовы хмель.
І была ў тым віне спатоля,
І была для душы купель.

І не памятаў з іх ніводны,
Што даела той нож іржа,
Што ў віна таго смак нязводны
Той крывінкі з таго крыжа...

## ПТУШАЧКІ

Калючым дротам схопленае неба.
Год пяцьдзесят чацвёрты. Калыма.
Маленькіх птушак з лагернага хлеба
Ён вырабляў і раздаваў дарма.

Ішлі ў кацёл прамерзлыя лушпіны.
Лічыў яго ўвесь лагер дзіваком.
Усе насмешкі строілі і кпіны,
Ніхто не падзяліўся з ім пайком.

— Нікому твае птушкі непатрэбны! —
Крычаў перад адбоем вертухай.
А ён грэў у далоні мякіш хлебны
І усміхаўся сам сабе: — Няхай.

Завея зграяй выжлаў на аркане
Над лагерам накручвала кругі.
А птушачкі паціўквалі ў чаканні,
Пакуль зэка не вернуцца з тайгі.

Вярталіся, і Бог даваў хвіліны,
І снег пад канваірам не рыпеў,
І чуўся вязням пошчак салаўіны,
І чуўся вязням жаўруковы спеў.

Нібы сярод зімы зазелянелі
На беласмертнай поўначы гаі —
Так цёхкалі, высвіствалі, звінелі
Ім тыя жаўрукі і салаўі...

Зіма дапрала белыя кудзелі,
І — вольным воля, хоць на ўсе бакі.
Так доўга за ім птушачкі ляцелі!
Так доўга… салаўі і жаўрукі.

* * *

Ігару Шклярэўскаму

Пастуквае жаўна па накавальні,
Дзе ні ступі — дарога мураша.
Мой шчыры бор, мой храм аўтакефальны,
Дзе Богу адкрываецца душа.

Якому прысягнуць патрыярхату —
Нікому ў храме тым не ў галаве.
Мураш не чыніць зла — будуе хату,
А вожык моўчкі моліцца ў траве.

Пагойдваюцца сосен кандэлябры,
І прагне ўвесь лясны арэапаг,
Каб легкавейнай папараці жабры
Па ўсім бары разносілі той пах.

Падданыя любові і лагоды,
І ўвішны вуж, і яшчарка на пні,
І крыжадзюб, і чмель жоўтабароды
Ніколі і ні з якае нагоды
Не крыкнуць на судзілішчы: распні!

Даверлівым, ім парасонам — вецце,
Ручай — купеллю, плашчаніцай — мох.
Для іх адных у гэтым дзіўным свеце —
І бор-сабор, і міласэрны Бог.

## БРАТ

Паўтараецца дзіўны абрад,
Што не мае ў прыродзе назову, —
Кажа прыхадзень мне: — Я твой брат.
Як прагнаць, як адвадзіць назолу?

Я сваяцтву сапраўднаму рад,
Клічу крэўнікаў на пагасціны.
Ды прыходзіць чужак: — Я твой брат,
І мы жыць у братэрстве павінны.

Мы частуемся, хто чым багат, —
Сваякі па крыві і па духу.
А над вухам ізноў: — Я твой брат...
І той голас, пачуты стократ,
Не прагнаць, як асеннюю муху.

Дзе б ні быў — на гульбе, ці сяўбе,
Я губляюся, прыхадня стрэўшы.
Ён расказвае мне пра сябе,
Ён адзіны ўжо стаў і старэйшы.

І выкрыквае ўжо як загад,
Ужо зáгрудкі ўзяўшы ў зацішку,
Раз, маўляў, ты малодшы мой брат,
То і слухаць павінен брацішку!

З азіяцкай хітрынкай пагляд,
Голас ноччу і днём не змаўкае…
І спытацца мне хочацца: брат,
А імя тваё часам — не Каін?

Калі ж Каін — вяртайся назад,
Не ўсміхайся прытворна і чэрства.
Кінь асліную сківіцу, брат,
І забудзься пра наша братэрства.

## СНЕГ

Памяці Міхася Жызнеўскага

Белы снег, як саван, над майданам.
Над майданам чорны дым з пакулля
І ледавіковая зіма.
Чорны дым смярдзіць кублом паганым,
Белы снег лавіць спрабуе кулі —
Не ўдаецца, ловы ўсе — дарма.
“Там сопротивления очаг” —
Снайперы страляюць па вачах.

Куля ў вока вершніку Багдану,
Куля ў вока пешаму Тарасу.
Што сляпому? Кобза і хатуль.
Белы снег перабінтуе рану.
Чорны дым схавае ў дол да часу
Плашч-палатку асляпляльных куль.
Украіна, сцішся і замры.
“Пусть поют слепые кобзари…”

Спеў лунае за Дняпро далёка.
Майстра і на кобзе вытне скерца,
Бажавольны станчыць гапака.
Кулю, што ляцела брату ў вока,

Прыцягнула маладое сэрца.
Не дрыжала ў снайпера рука.
І на Кіеў, на майданы стрэх
Бел-чырвона-белы выпаў снег.

Гэта Бог, схіліўшыся ў жалобе,
Плашчаніцу па-над ім раскінуў.
Чорны дым клубіўся каля ног,
Як паўзучы гад на расцяробе.
І, дабраславіўшы Украіну,
"Ён загінуў, — так шапнуў ёй Бог, —
Каб ты, нэнько, бачыла штоміг
І сяброў, і ворагаў сваіх".

## ДАНЕЧЧЫНА, ЛЕТА 2015

Праз стэп прамазучаны, як качагарка,
Параненай яшчаркай скача прамень.
У драме ўкраінскай курсівам р э м а р к а:
На фронце ўсходнім без перамен.

## ЗВАНАР

Ёсць узыходжанне да звону,
Як свой уласны эверэст.
Без падрыхтоўкі, без дазволу —
Душы прыземленай пратэст.

Душа заўсёды неба прагне,
Душы няпроста дагадзіць.
Душа не хоча жыць у багне,
Што вокам чортавым глядзіць.

Меў голас, а маліўся — нема,
Мог анямець — азваўся звон.
Хістаецца драбіна ў неба,
Вятры з вакон бяруць разгон.

А ўзнагародай за знямогу —
На вежы ўстаць у поўны рост
І пазваніць знянацку Богу
Без пасярэднікаў, наўпрост.

Хай потым гром і навальніца,
Няхай сняжыць, няхай імжыць…
Хоць раз да Бога дазваніцца –
Дзеля такога варта жыць.

* * *

Божая кароўка заблыталася ў павуціну,
Што на пожні расой вечаровай набракла.
Жабы ў сажалцы зноў вывучаюць лаціну —
Паўтараць не стамляюцца: аква, аква.

Там — на дыбачкі прыўстае касцёл,
Каб данесці воблакам свой малебен.
Тут — у лозах азваўся быў пасвісцёл,
Ды замоўк, адчуўшы, што не патрэбен.

З-пад страхі гумна выглядае багор.
Вёска на галасы людзей паскупела.
І гучыць, не змаўкаючы, жабін хор —
Пераможна,
на ўвесь бел свет,
а kapella!

* * *

А лівень схлынуў і збег за рэчку.
І стала дыхацца лёгка-лёгка.
Раз-пораз вогненную вуздэчку
Пярун прымяраў камусьці далёка.

Сланечнік чуб абтрасаў каля рова
І назіраў, як у дзікай злосці
З вуздэчкі тае і дугі каляровай
Імкліва ўцякае грывасты хтосьці.

Не ведаючы, хто на небе ахвяра,
Звінеў на зямлі сырадой у даёнцы.
І светлым воблакам стала хмара,
Паспавядаўшыся сонцу.

* * *

Дружылі — не разлі вада.
Хоць за крысо нячысцік тузаў,
Іх не сварылі ні бяда,
Ні трубы медныя, ні музы.

Ці спеў з карчомкі даляцеў,
Ці чорная прабегла котка —
Ён зрокся сябра. Так хацеў.
Сышло. А на душы пякотка.

І што яна — мо Божы знак?
А мо нячысцікавы кукіш?
Прадаў сяброўства за пятак —
Пасля і за мільён не купіш.

* * *

Падлічыўшы ўсе гузы,
Самы час агойтацца.
Толькі ляж пад абразы —
Адпявалы знойдуцца.

Прагугнявяць некралог
І ўзмахнуць кадзілам.
А я проста так прылёг.
Вам якое дзіва?

Ах, далі ўжо знаць радні?
Ах, заняў вам покуць,
Дзе вы звыклі дзень пры дні
Гойсаць і галёкаць?

Хто галёкаў, той прыціх,
Да дзвярэй падаўся —
Міхаіл Архістраціг
З цёзкам прывітаўся.

Мне падаў святы Пятро
Ключ ад райскай брамы.
Скінуў райскі птах пяро
На падушку прама.

Столь — дзівосны парасон,
Квецень між пазамі…
Незвычайны гэта сон —
Сон пад абразамі.

* * *

Насалелая выдма лысее.
За прычаламі ясніцца даль.
Піша мора сваю адысею,
Развінуўшы гекзаметры хваль.

Там за свет адплываюць героі
Па сваё залатое руно.
Там свае ахілесы і троі,
Для рысталішчаў — тупкае дно.

Што́ зямныя імперыі ў славе,
Дзе дачаснікі селі на трон?
Сто вякоў акіяннай дзяржаве,
Дзе нязменны ўладар — Пасейдон.

Барадаты, суровы з аблічча,
Ходзіць ён па зыбучым пяску,
Галіёнамі золата лічыць
І русалкам дае на луску.

Сее жменяй, ніяк не дасее,
Дзе плытчэй, трапяткую кефаль…
Піша мора сваю адысею,
Развінуўшы гекзаметры хваль.

## ЗАЛАТЫЯ ПЯСКІ

Намывала стагоддзямі мора
Залаты свой запас —
Пытляваны сонцам і ветрам,
Шліфаваны жорнамі хваляў
Жоўты пясочак.
Кожнай пясчынцы хацелася
Стаць жамчужынай у чарупіне
Ці адмерваць імгненні
У пясочным гадзінніку —
Падзяляць на каштоўныя унцыі час.
Сонца, мора й пясок як пылок —
Райскі куток.
Але тысячы змеяў
Зладзілі тут свае лежні,
З вінаграднікаў спелых
Сыкала гадаўё…
І тады баязлівыя людзі
Прывезлі на Залатыя Пяскі
Усяго пяць кошыкаў вожыкаў —
Маленькіх, калючых вожыкаў,
Вялікіх адвагай вожыкаў,
І — паўцякалі ўсе змеі,
І знікла зусім гадаўё.

Шчаслівыя людзі —
Сябры-другары балгары,
Зруйнуйце вы помнікі

Макдональдсам і піратам,
Жрыцам кахання, кухмістрам
І залатому цяльцу,
А пастаўце помнік Вожыку —
Вызваліцелю Залатога Пяску!

Вожыкі мілыя,
Хочаце — я дам вам бусі
І куплю вам купэ ў цягніку
Да самой Беларусі?
Бо не магу ужо я
Трываць там гадаўя…

## РАЗГАДКА ПІРАМІДАЎ

У сонечнай Варне
На плошчы ля ратушы —
Груда каменя.
Як маеш прэтэнзіі
Да гарадское ўлады
Ідзеш і кладзеш туды
Свой камень пратэсту.
Расце піраміда на плошчы,
І варненцам лёгка жывецца —
Ніхто з іх не носіць за пазухай камень.

Усе егіптолагі свету,
Няўжо і цяпер вам няясна,
Хто і навошта узвёў піраміды над Нілам?

Ды проста падступны Хеопс
Забраў у фелахаў аазіс.
Нягоднік Рамзес
У засушлівы год
Закапаў у гаршку на беразе Ніла
Апошняе зерне.
А гіцаль Тутанхамон
Прымусіў падданых
Сабраць колькі сціртаў
Вярблюджых калючак
Для сваіх драмадэраў
І ў тэрмін не разлічыўся.

Цярплівы народ
Клаў камень на камень.
А фараоны жылі гэтак доўга —
Як цячэ Ніл лянівы…

Вось і ўся пірамідаў разгадка.
А таму не лічыце мяне экстрэмістам,
Калі выйду на плошчу
З каменем у руцэ.

* * *

Турэцкі бераг. Шарая гадзіна.
Штурмуе мора ўпартае базальт.
Чуваць аднекуль песня муэдзіна,
А ля пустой таверны грае альт.

Як быццам свету цэламу “бывайце”
Гаворыць тою музыкай скрыпач.
Таверна. Мора. Моцарт і Вівальдзі.
І песня муэдзіна, нібы плач.

Турэцкі вечар зманьвае ў альковы —
Заходзь, багаты лірай і рублём.
Старой дзяржавы сцяг маладзіковы
Над кожным домам, як над караблём.

Плывіце пад тым сцягам, хто ахвочы.
Але пацвердзіць музыка сама, —
Мы розныя з ёй памятаем ночы, —
Чарней за ноч турэцкую няма.

* * *

Застаўся ў сагах, хто масты паліў
І хто на бітву вёў харугвы смела.
Адзін грузін узяў і пераплыў
З рукамі звязанымі Дарданелы.

Не прагнуў ён сенсацый і прыгод
І тэлекамер не шукаў вачыма.
Ён плыў, каб сцвердзіць: мы — такі народ,
Які скарыць і знішчыць немагчыма.

Рака гісторыі цячэ ў вяках,
І беларус у ёй надзіва лоўкі —
Плыве, хоць на нагах і на руках
Пятлёю мёртвай сцягнуты вяроўкі.

Не будучы героямі паэм,
Мы зімы незлічоныя і леты
Па той рацэ гісторыі плывем,
З рукамі звязанымі, а — плывем,
З нагамі звязанымі, а — плывем,
І даплывем да запаветнай мэты.

## ЖАДАННІ

Падтрымаць Пізанскую вежу,
Каб не ўпала
Пад крыкі турыстаў.
Вежа ўсё ж лепей, чым крушня.

Запрэгчы ў млын Ніягару —
Хай бы малола муку,
А то вадаспад-абібок
Адно весяліцца з вясёлкай.

Пашыць камізэльку месяцу,
Каб не мерз і не лез
У коміны грэцца —
Учадзее і загнецца
Яшчэ больш.

Нёман, Дняпро і Прыпяць
Звязаць хвастамі —
Хай бы патузаліся.
Соннай зямлі
Землятрус не зашкодзіць…

Удасканальваннем свету
Я мог бы займацца бясконца,
Ды раптам госць паявіўся
І лезе сляпіцаю ў вокны —
Месяц па камізэльку!

## МЕНСКАЕ МЕТРО

Гукі ў падзем’і прагна лаўлю —
Так эскімос ловіць промні.
Мова схавалася пад зямлю,
Як хрысціяне ў каменяломні.

Там і гучаць ёй — малітвай з губ,
Гутаркай, клічам, песняй.
А на паверхні — ганебны слуп
І казематы з плесняй.

Першых пакутнікаў-хрысціян
Душы ўзняліся ў неба.
Новы прыйшоў Дыяклетыян —
Трэба відовішч і хлеба!

З мовай дужэе і немаўля.
Марна наладжваць ловы,
Дзе прыхавала сама зямля
Магму жывое мовы.

Марна стаўляць на яе капкан,
Марна цкаваць ільвамі.
Мова выбухне, як вулкан,
Проста з зямлі пад вамі!

## НА РАДЗІМЕ СТРАЛЬЦОВА

Прыехаць у сонечны Сычын,
Па вёсцы бязлюднай прайсці.
Ні крыку, ні скрыпу маснічын,
Ні шчэбету ў жоўтым лісці.

Павук на спачын у начоўкі
Па ўласнай драбінцы залез.
У хаты, нібы ў лесніčоўкі,
Заходзіць дапытлівы лес.

Бяроза стаіць каля печы,
Асіна дрыжыць ля акна.
Збуцвелую бэльку на плечы,
Здаецца, падхопіць сасна.

На покуць прабралася ліпа,
Ядловец за ёй наўздагон…
І ўжо за сялібай сяліба
Здалася ў зялёны палон.

А злеціць жаўна з паднябесся,
І ўжо неўпрыцям той жаўне,
Ці хаты сабраліся ў лесе,
Ці лес у тых хатах жыве.

## КАЛЫСКА

З мазаікі ўспамінаў-сноў
Збіраю зноў асколкі —
Калыскаю лаўлю ўюноў
Пад восілкам вясёлкі.

Рыбацкай граматы азы
Засвоены сумленна.
Калыска сплецена з лазы.
Рачулка па калена.

Прыбіла плынь да босых ног
Усмешлівую лотаць.
Калыска выгайдала трох.
Ёй даспадобы — лётаць.

Зашыюцца ўюны няхай
У глей пад карнявіска.
Ты зноў мяне пакалахай,
Калысанька, калыска.

На бераг прыкульгае бай,
І кот-варкот, і ліска.
Ты ўсіх нас разам пагайдай,
Калысанька, калыска.

І покуль дзень той праміне
І прыйдзе вечар золкі,
Калысанька, злаві мяне
Пад восілкам вясёлкі!

## ДУДА

Памяці Зміцера Сідаровіча

Абселі зыркіх зорак восы
Падшыты золатам кілім.
А з хмарачоса на нябёсы
Душа ляцела пяць хвілін.

Што ёй балістыка і пластыка
Аблок у лёгкай іх хадзе?
Яна, нібы ў падстрэшшы ластаўка,
Жыла ў дудзе.

Дуда журылася жалейкай,
Дуда гукалася сурмой.
І плакала па згубе нейкай,
І звала за радзіму ў бой.

Віднеўся ў вышыні бяздоннай
У вырай-рай птушыны тор.
Душа, застаўшыся бяздомнай,
Віла гняздо з калючых зор.

Ім ані хорам, ані сола
У горняй высі не гучаць.
І Бог паслаў ёй арханёла —
Каб даспяваць, каб не маўчаць.

І стуль, дзе сціхнуў голас трубны,
Дзе ў райскай квецені сады, —
Пачуўся раптам жыццялюбны
Зык арханёльскае дуды.

## НЁМАН НЯБЕСНЫ

Плысці да мора рэкам трэба,
Каб зліцца з хваляю марской.
А Нёман упадае ў неба —
На небе шлях скончае свой.

Змяёй паўзе ў балоце Прыпяць,
І сняцца айсбергі Дзвіне,
Дняпро расолу прагне выпіць
І ў мора Чорнае імкне.

Дунай цягае баржы з хлебам,
Як франт, ля мора лёг Еўфрат.
А Нёман параднiўся з небам,
А Нёман — небу родны брат!

І ясным днём, і ноччу цёмнай
Пра мора доўга марыць Ніл.
А неба трэба толькі Нёмну,
І небу толькі Нёман міл.

Ці просіць глею ўвесну глеба,
Ці ўзімку лёд закрые свет,
А Нёман упадае ў неба —
Зірніце з моста яму ўслед.

Зноў перад Волгай акаяннай
Змялелы Каспій аж дрыжыць.
Сто рэк бяжыць да акіяна,
А Нёман з небам хоча жыць!

Падземны Стыкс зусім згаротнеў,
Слязьмі саліўся шмат разоў.
А Нёман адпачне ў Гародні
І — пацячэ у неба зноў.

Абмые Ганг мурзатых, босых,
Сплыве Мурэй праз марлю дна.
Рака, расталая ў нябёсах,
На цэлы белы свет адна!

А прыйдзе час мне па радзіме
Плысці ў бязвёсельным чаўне,
Хай Нёмна плынь яго абніме
І ў неба вынясе мяне.

* * *

Сын сабраўся да мамы Куліны,
На два дні перажыўшы зіму.
Тры драбочкі вушацкае гліны —
Наш апошні дарунак яму.

Як трымацца і кім там назвацца?
Мама, голас твой увушшу.
Ці пазнаеш душу ў вышыванцы?
Хоць яе і не бачна, душу.

На аблïччы ні страху, ні болю.
Там спаткаліся ўрэшце яны.
А з магілы ірваўся на волю
Сцяг, прыкушаны векам труны.

## БАРТАЛАМЕЕЎКА

Барысу Пятровічу

Як саламяная ўдава,
Хавае хата век старэчы.
На прыпеку расце трава
Перад патухлай пашчай печы.

Прамень наточаным лязом
Пакрэмсаў павуту запечка.
А ластаўкі за абразом
Звілі прытульнае гняздзечка.

Каля дзвярэй пад шапкай крук —
Як вартаўнік у каравуле.
І лялька без дзіцячых рук
Сядзіць — самотная бабуля.

Агмень даўным-даўно патух,
Пагрэў, пакýхарыў — і годзе.
А каля печы хлебны дух
Чуцён і праз дзесяцігоддзі.

Трава расце без лішніх воч,
Уранку на расу скупее,
Бо ведае — як прыйдзе ноч,
Прысніць апошні дзень Пампеі.

## ПЯТЫ

Алесю Бяляцкаму

Ахілесава пята
І героі Троі.
Ах, Алесева пята,
Крокам руш — настроі.

Камяністая шаша
Ці гасцінец гладкі.
Не хаваецца душа
Палахліва ў пяткі.

І адзін у полі рацць.
Ёсць яшчэ героі
За радзіму паміраць?
Лечаць гемароі.

Ахілесава пята.
Гора аднаверцам.
Ах, Алесева пята,
Роднасная з сэрцам.

Дзе ўначы кугіча лес,
Лук трымціць напяты.
Ах, Алесь і Ахілес,
Беражыце пяты.

З-пад бяседнага стала,
З цёмнага гарышча
Зноў ляціць, ляціць страла
І злавесна свішча.

* * *

Над Крошынам ізноў пагрымвае.
Чарнее паднябенне неба.
І жырандоляю Багрымавай
Штоноч свяціць касцёлу трэба.

І ўпоцемку жыць могуць людзі,
Раздольна поначы ваўкам,
Сава ў дупле кугікаць будзе,
А як у цемры жаўрукам?

Сузор'е знічкамі не падае.
І рады просьбіты дарам.
Свяціся ж боскаю лампадаю
У жаўруковых песнях, храм!

* * *

З пасланнем ад продкаў — бяроста,
Пісала сатлелага след...
“Лісты — ашчадкніжкі сяброўства”, —
Меў рацыю ўсё-ткі паэт!

Лісты — красамоўныя крэскі
Да вашых партрэтаў без рам.
Не шліце сябрам эсэмэскі,
Лісты дасылайце сябрам.

Няхай непаспешная пошта
Даставіць вам пісьмы дамоў —
І, нібы той грынаўскі кошык,
Квітнецьме букетам раскошным
Гербарый пачуццяў наноў!

Не крышку, а добрага лішку
Дадасць, не шкадуючы, час
На тую
        лістоў ашчадкніжку —
Вось ён, залаты ваш запас.

Нашто з намі век каратае
Назойлівы скайп і вай-фай?
Хай пішацца слова “вітаю”,
Хай пішацца слова “бывай”.

## АСУДЖАНЫЯ

Калісьці існаваў закон такі,
Гісторыя сляды яго не сцёрла:
Забойцы, здраднікі, рабаўнікі
Караліся бязлітасна на горла.

Падпісваў прыгавор вялікі князь,
Ахвяр да эшафота везлі конна.
Не блякла мудрагелістая вязь
Суровага, залішне аж, закона.

І нам, хоць на двары гуманны век,
Адзін фінал сустрэць наканавана.
І не папросіш ласкі для калек,
І літасці не будзе для каханай.

Не зменіш ні артыкул, ні статут.
Пара прыходзіць сцішыць парыванні.
Мы ўсе, мы ўсе асуджаныя тут
Да найвышэйшай меры пакарання.

* * *

Запавуцініць восень скронь,
Ці змаладзее дзень вяснова,
Умей кансерваваць агонь —
Спатрэбіцца абавязкова.

Залье вясной паводка груд,
Ці белым днём настане цемень —
Хай пад рукою будзе трут,
Хай пад рукою будзе крэмень.

Умей да часу прыхаваць
Цяпельца у сухой ігліцы,
За пазухай запалак раць
І пад падушкай — бліскавіцы.

Спрактыкаваная далонь
Адчуе полымя у кноце.
Так пад зямлёю спіць агонь
У пухкім торфе на балоце.

Здавён нам жыжаль за радню.
Калісьці, зверыўшы паролі,
Жрацы падземнага агню,
Мы выпусцім яго на волю.

## ЯБЛЫНЯ

Яблыневы сад абкошваў дзед,
Размаўляў з казой, збіраў ламачча.
Спадцішка ступала смерць услед —
Дзед яе за дрэвамі не бачыў.

Як убачыў — адвязаў казу,
Пажадаўшы саду даўгалецця,
Пачапіў на яблыню касу
І пайшоў пакорліва за смерцю.

Дзед ішоў прысадамі, мяжой.
А каса галодная люцела
І паіла яблыню іржой,
І ўпілася ёй зубамі ў цела.

Дзед ішоў праз поле нацянькі
Лёгкаю хадою, як калісьці.
Пакруціла ў яблыні сукі,
Пачарнела сярод лета лісце…

Ранкі абмываліся расой,
І стаяла ў жоўтым лістападзе
Яблыня кашчавая з касой
У здзічэлым анямелым садзе.

## ПАРАЗА

З мора не выгнаць. Я ледзь не пакрыўся луской.
Ехаў на поўдзень, прызнацца, з такімі пантамі —
Кум каралю, а падужаўся з хваляй марской,
Як пачатковец нявопытны з майстрам татамі.

Бачылі ўсе (о ганебны той дзень!) і здаля —
Я выглядаў ледзь жывым пасля той калатнечы,
Як надавала мне мора пад бок кухталя,
Пэндаля ў зад і слановага выспятка ў плечы.

Лёг, нібы яшчарка, ніц на гарачы пясок
І пеклаваўся на сонцы спякотным і ветры.
З выгляду — яблык, з якога адціснулі сок.
Выпетраў, рыхтык за восем стагоддзяў Ай-Петры.

Як ачуняць і пазбыцца паразы тае?
Што я ляжу галышом і каму я тут роўня?
Вочы, нябога, узняў, а з-за мора ўстае
Харызматычная і ясналікая поўня.

## ЯК ТРАПІЦЬ У РАЙ

Ён думаў — кар’еру завершыў,
Няўдаліца, лузер, банкрут.
Запіў. І дапіўся да вершаў.
Памёр. І быў з партыі першым
На Божы пакліканы суд.

Спытаў яго Госпад сурова:
— Ты грэшнік вялікі, хаця
Для ўсіх ёсць апошняе слова.
Дзе вынік зямнога жыцця?

І там, дзе струменіў эфірны
Між белых аблок халадок,
Ён Богу — пра ўсе свае фірмы,
Пра ўласны аграгарадок...

Ды Госпадам без цырымоній
Прыпынена споведзь была:
— Служыў ты, як бачна, мамоне,
Для гэткіх — у пекле смала!

Здранцвеў аж са страху памершы:
— О Божа! Суд строгі вяршы,
Але – мо паслухаеш… вершы?
Я… вершы пісаў… для душы.

І там, дзе струменіўся свежы
Між белых аблок халадок,
Ён Богу чытаў свае вершы,
Забыць баючыся радок!

Аблокі, як белыя вішні,
Расквецілі ўсцяж небакрай.
І трапіў падсудны — у рай,
Бо вершы любіў Усявышні.

## НА ЭКСКУРСІІ,
## альбо ТАПАМІМІКА З ГРЫМАСАМІ

Аднойчы ў Полацку на вуліцы Леніна,
непадалёк ад "вала Івана Грознага",
мне паказалі "домік Пятра Першага",
перад якім стаяў помнік Льву Талстому…

Звыклі паўтараць экскурсаводы
Кожны дзень разоў па дваццаць пяць:
— Асцярожна, помнікі прыроды!
Рэдкі від! Рукамі не чапаць!

— Гляньце, неба кронаю падпершы,
Дуб стаіць, вяршыні не відно.
Пад тым дубам сеўшы, Пётра Першы
Біў французаў пад Барадзіно.

— Бачыце прыземістую грушку?
Рос вакол яе прыгожы сад —
Там Сувораў абдымаў Касцюшку
Год таму чатырыста назад.

— Вунь крыніца пад гарой бруіцца,
Знакамітая на ўвесь раён,
Бо з тае бруістае крыніцы
Танкі запраўляў Напалеон.

— Вунь стаіць каменная адрына —
Артэфакт! Паказвалі ў кіно,

Як у ёй царыца Кацярына
З Пушкіным гуляла ў даміно.

Як пісалі ў весніку краёвым,
У адрыне жыў не толькі гусь —
Там Пілсудзкі з графам Мураўёвым
Думалі штодня пра Беларусь.

— Вунь да вышкі лесвічка прыстаўлена —
Быў камандны пункт самога Сталіна.
Люлька і ўгары чырвоны флаг.
Быў відзён з той вышкі ўвесь Гулаг…

Вось такая слаўная гісторыя.
Часам пратэстуюць некаторыя,
Дзякуюць за байкі з тапанімікай
Нецэнзурнай лаянкай і мімікай.

## СКЛЕП

*Язэпу Янушкевічу*

Хтось гаворыць нам ка́зань штодзённа
пра зло і дабро,
А табе і дагэтуль баліць ад дубінак рабро.
Што ж, такое цяпер у краіне
настала становішча.
Ды калі землятрус скалане
ці, крый Божа, вайна,
Я ў твой Ракаў збавенны прыйду
пехатой без майна,
Каб схавацца ў зацішак падземны
твайго бамбасховішча.
Збудаваў, змураваў,
укапаў яго ў Ракаў Язэп…
Ды хвалюе адно —
а ці ўлезем мы ўсе у той склеп?

## КАДАЎБЕШКІ

Рабіў мой продак з ліпы кадаўбы,
Каб жыта жыць прыходзіла ў застрэшкі.
А сёння сухастойныя дубы
Спатрэбіліся, бач, на кадаўбешкі.

Нячутна йдуць наўслед, як цені — ша!
Цішком праз плот віжуюць расахаты.
Мая ж
        ад нараджэння ўжо
                                    душа
Завербавана вербамі ля хаты.

## АДКАЗ КАРДЫНАЛА

Бабулі дзве, дзядок і маладзіца
Прыйшлі да кардынала на прыймо.
— Вялебны, нам не есца і не спіцца,
На рускай мове хочам мы маліцца,
На мове іншай рады не дамо!

Паслаў нас ксёндз, і храм у нас ёсць новы,
І на алтар сабралі капітал…
— Ваш ксёндз — такі любіцель рускай мовы? —
Спытаўся, памаўчаўшы, кардынал.

О, Ваша эмінэнцыя, любіцель!
На мове беларускай — ні гу-гу,
Ды дбае так пра нашую абіцель…
І кардынал сказаў: — Дапамагу.

А што далей? Храм узвышаўся новы,
У ім жылі малітва і любоў.
А менскі ксёндз, аматар рускай мовы,
Служыць паехаў некуды ў Тамбоў.

* * *

Посцім ці аладкі ў мёд мачаем,
Ці ратуем песняю душу,
Божа, не карай мяне маўчаннем —
Аб адным заўжды Цябе прашу.

Даў ты мне дыханне, даў каханне
І ў чмяліным лузе сенажаць,
Веча вечароў і руны рання —
Як пра ўсё пра гэта прамаўчаць?

Прамаўчаць над срэбным вадаграем,
Поўным весялосці і журбы?
Прамаўчаць, як прагучыць над Краем
Голас арханёльскае трубы?

Кім названа золатам маўчанне?
Хто ён быў — філосаф, адвакат?
Ёсць маўчанне – як нямка мычанне,
Ёсць маўчанне — безуважны кат.

Ці дамоў вярнуся з падарожжа,
Ці ўдыхну ізноў чужыны дым,
Не карай маўчаннем мяне, Божа, —
Я маліцца буду аб адным.

## ПРОСЬБА

Прывыкаю жыць спакойней,
Без прэтэнзій волата
Ўсіх змагаць, падкоўваць коней
Вухналямі з золата.

Што жыццё меў — дзіва з дзіў,
Богу шчыра дзякую.
Сад садзіў і суд судзіў
Словамі і дзягаю.

З сябрукамі піў віно
І спазнаў каханні,
Дзе зліваліся ў адно
Два дыханні.

Ад відовішчаў і шоў
Розных стаў капрызней.
Незаўважна час прыйшоў
Пасядзець на прызбе.

На астатак што пакінеш
Для сябе самога?
Самы непрыкметны фініш
Папрашу я ў Бога.

Не пакінь другім ці першым
На апошнім крузе,
Ты мяне завершы вершам,
Як стажок у лузе.

Канстанты Ільдэфанс ГАЛЧЫНСКІ
(Польшча)

## МЕСЯЦ

Механізмам патайным рухомы,
я плыву ў хаціны і харомы

па дакладна змераным маршруце,
пада мной — будынкі, дрэвы, людзі.

Срэбныя раздзьмухваю пажары,
срэбра сыплю на траву і твары.

Дзіўна — пасля нашае сустрэчы
ажываюць нежывыя рэчы,

іх вага, памер і колер ноччу
зменяцца пад поўняй неаднойчы.

Заціхае вецер, моўкнуць совы
ў час таемны, ціхі, месяцовы.

Падаўжаюцца масты і вёслы,
волатам здаецца недарослы.

Горад вымер пад маім паглядам
і абвіўся дзікім вінаградам.

На балконах, будцы для сабакі
кожны промень крэсліць свае знакі.

Прыхавае цемра шпіль ці комін —
і туды дастане срэбны промень,

бо будынак, што глядзіць панура, —
непатрэбная архітэктура.

Рыхтык з мора, з глыбіні, з прадоння —
штосьці вынырне і зноў патоне.

Кроны дрэваў, вежы, камяніцы
абцінаюць промні, як нажніцы.

Камень енчыць, скардзіцца, звягуе —
не жадае форму мець другую:

помнікам стаяць, ліхтарняй гнуцца,
зноў пераўтварацца і імкнуцца

ветрам па-над цёмнаю шашою,
птушкай за прапашчаю душою.

Срэбнае святло ліецца долу —
свет пераіначвае наўкола,

выкрадае плошчы і дарогі
і кладзе вам лесвіцу пад ногі.

Раптам над канём дуга знікае —
і ў спалоху бома не змаўкае,

прагучыць у цемры двойчы, тройчы
музыкаю месячнае ночы.

Срэбны промень пранікае ў сховы,
у каморы, спальні і галовы,

у крышталь, у флянсікі канвалій,
у калодзежы й рачныя хвалі,

ў вочы соннай птушкі й маладзіцы,
у ліхтар, што ў лужыну глядзіцца,

у даспелых вінаградзін гронкі,
у спакусы, шэпты і гамонкі.

Я не паляўнічы і не лоўчы,
я жадаю ўсім спакойнай ночы.

Хто ж такі я? Вам адкрыўшы душу,
я па-польску развітацца мушу.

Рэчы мілыя, мой свеце ясны,
добрай ночы ўсім, я хутка згасну.

Промень мой, будзь смыкам для музыкаў,
я ж не адгукнуся, хто б ні клікаў.

А каб доўга месяц памяталі,
дам канцэрт апошні ў гэтай залі.

Проста з неба саслізгну і хітра
першай скрыпкай стану ля пюпітра,

і чатыры вальсы ў такт музыкам
я зайграю несмяротным смыкам,
адгукнуцца флейты і кларнеты

аж пад купал, цёмны і высокі,
і закружаць, пусцяцца у скокі
восень і зіма, вясна і лета.

Снег і пальмы, роўнядзі і ўзгоркі,
свет шматлюдны, вогнішчы і зоркі,
і пустэльні, дзе звярам не спіцца,

і дамы, і ў шапках гнёзд таполі —
ўсё кружляе па вялікім коле:
я ў тым коле асвятляю спіцы.

Хоць занятак звыклы і вядомы —
часам ледзь не падаю ад стомы.

Бачыш рожкі ў шыбе? То не чэрці,
гэта я, твой месяц, на канцэрце.

Там завіс я у акне высокім
побач з усёбачным Божым вокам.

Разам з ім лісты твае чытаем,
не самотна нам над небакраем.

Ты мяне прыцягваеш, палоніш,
срэбны дождж мой кудзеркамі ловіш.

Твае вочы — як дзве гронкі бэзу,
два світанні ў гуках паланэзу.

Потым я вярнуся з падарожжа —
скарбы ля твайго рассыплю ложа.

Ты заснеш пад промняў пацалункі,
срэбнай ніткай вышыю карункі,

дзе раскіну зоры Млечным шляхам —
там прасторна хмарам, вежам, птахам.

А ты спіш анёлам срэбратварым.
Ноч спрыяе срэбным снам і марам.

А пamру — не плач, маё каханне,
я вярнуся да цябе пад ранне,

вытру слёзы, зазірну у вочы:
— Гэта я. Твой месяц. Сэрца ночы.

## НАДЗЕНУ ЧОРНЫЯ ПОРТКІ

Надзену чорныя порткі,
набытыя для паховін,
і сяду ў човен Харона,
у чорны пануры човен.

А з чоўна пашлю сяброўкам
паветраны пацалунак.
Бывай, мой шынок любімы,
дзе я не сплаціў рахунак.

Памёр я парой вячэрняй.
Вярнуўшыся з пахавання,
пашліце, сябры, дэпешу
Крушэўскай Феліцыі, пані.

Феліцыя піша вершы,
няхай жа засведчыць кпліва:
“На жаль, і паэт Галчынскі
пайшоў да Абрама на піва”.

## СЦІПЛАСЦЬ

Прыйшло на паштамт Варшавы
аднекуль здалёк, з-за свету,
пісьмо, на ім адрас цікавы:
“Найлепшаму ў свеце паэту”.

У роспачы лістаношы:
ні прозвішча, ні краіны.
Аднак — заплачаны грошы,
і ліст уручыць павінны.

Яго не схавалі ў шафу —
паслалі адразу Стафу.

А Стаф перадаў Тувіму,
а той адказаў у рыму:
“Не мне. Мяне не трывожце.
Няхай паляжыць на пошце”.

І быў начальнік паштовы
ў адстаўку сысці гатовы.
Пасля ад калег у сакрэце
змясціў аб’яву ў газеце:

“Такі і такі ліст маем.
Прыходзьце хутчэй, чакаем”.

І што-о?

Праблему меў яшчэ большую,
бо ўжо і з Варшавы й з Ольштына —
усе вершапісцы Польшчы —
стаялі ў чарзе на пошту!

## АХВЯРЫ СВІРЭПЫ

Знайшлі ў паэме “Пан Тадэвуш” вобраз гожы:
“Свірэпа ў белай грэчцы бурштынам залачае…”
З-за той свірэпы ўсе прафесары ў адчаі.
О, мілы Божа…

Спыталі ў пана Крыдла:
— А што гэта — свірэпа?
Крыдл адказаў: — Магчыма,
кабета-незачэпа?

Спыталіся ў Пігоня —
той думае і сёння.

Шукалі ў энцыклапедыях,
у каталогах і слоўніках,
у старапольскіх трагедыях,
у статутах і гербоўніках,

гарышчы прайшлі і склепы —
нідзе не знайшлі свірэпы.

І ўжо прадавачкі ў краме,
кіроўцы і гаршкалепы
гавораць: “Дзякуй, Адаме,
мы ўсе – ахвяры свірэпы!”

## У ЛЕСНІЧОЎЦЫ

Там, дзе лясныя шаты
слухаюць спевы зорак,
з цэглы чырвонай хата
выбегла на пагорак:
у леснічоўцы Пране
наша з табой спатканне.

Хмель на рагах ласіных
высах, зрабіўся сыпкі.
Восені атрасіны
граюць лясныя скрыпкі;
скрыпку кранеш любую —
плача яна й жальбуе.

Бор за акном сасновы
цягне да шыбаў лапы.
Прыцемак вечаровы
перапужаўся лямпы —
свеціць яна праменна,
як на стале Шапэна.

Слухаюць сосны, клёны
сцішаны спеў да рання,
месяц, як Бах натхнёны,
грае нам на аргане,
гукі лятуць па ветры,
будзяць лясныя нетры.
У леснічоўцы Пране —
музыкі цараванне.

Ходзіць нячутна вецер
лесам па мяккай гліцы,
зноўку аддана свеціць
нам язычок газніцы.
Над леснічоўкай Пране —
пошум і калыханне,
месяц звысоку гляне
і не супыніць гранне.

Едзе фурманка ночы,
коціцца ўніз бясшумна,
фурман заплюшчыў вочы,
конік ступае сумна.
Месяц з валізы зрэбнай
скрозь парассыпаў срэбра —
і леснічоўка Пране
срэбным палацам стане!

Зоркі, як пілігрымы,
селі на дах сялібы,
не пралятаюць міма —
зоркі цалуюць шыбы.
Гляну знізу ці зверху —
зорка ў тваім люстэрку.

Ліна КАСТЭНКА

(Украіна)

* * *

Маё каханне! Я перад табою.
З маіх начэй і дзён маіх не згінь.
Вазьмі — але не ўслужлівай рабою,
не ашукай і крылы мне пакінь.

Крый Бог, каб свет, мой свет сышоўся клінам
і ты забыў, дзеля чаго жыву.
Перахапі над шляхам тапаліным
і падары мне сонца булаву!

Не дазваляй заблытацца ў драбніцах,
не размяняй на паланянкі ўздых,
бо косці перавернуцца ў труніцах
шляхотных, мужных прадзедаў маіх.

І іх дамоў прывозіў конь стамлёны,
і ў іх было каханне, бы ў мяне.
І іх хапалі жонкі за страмёны
і кленчылі ў згарчэлым палыне.

А там, а там… Адчайны клёкат бою,
і звон мячоў агучваў далячынь.
Маё каханне! Я перад табою.
З маіх начэй і дзён маіх не згінь.

Васіль СТУС

(Украіна)

* * *

Прастую шлях — па вымерлай пустыні,
дзе мёртваму спажытку мне няма.
Глядзяць хаціны вокнамі пустымі —
чакаюць на вяртанне, ды дарма.
Іду-брыду з адкульсьці у нікуды,
бо спадзяюся я яшчэ, што там,
дзе кубляцца апушчаныя юды,
ёсць трохі месца і маім братам.
Ну хоць бы хто натрапіўся на вочы,
схапіцца б позіркам за позірк чый…
Змяіцца шлях — хаўруснік цёмнай ночы,
і хоць на поўню ваўкалакам вый.
Бо ўжо не я — нібы чыясь лучына,
гарыць ва мне, вяшчуючы адно —
мне сэрца спапяляе Украіна,
якой мне, хоць аслепні, не відно.
Ды ёсць яна — за восілкам вясёлкі,
за марывам, за небасхілам — ёсць,
у сумятні, у галасе масоўкі,
мая туга, мой сум і весялосць.
Дазволь жа мне дайсці з душой-цяпельцам,
Дайсці з душой — жывым цяпельцам — мне!
Мой Божы свеце, даўшы нацярпецца,
Дай зернем легчы ў роднай баразне.

* * *

У шэрані стылай аслепла акно,
у шклянцы — паўсвечкі, у пляшцы віно,
у горле прастуда, на сэрцы зіма,
і з вокан навокал — адна Калыма.
Бяздонні і стромы. І гурбаў гарбы.
І хоць звар'яцей ад журбы, варажбы,
начнога чакання, світанкавых сноў.
Запырскала сцены — праменне ці кроў.
Занадта далёка. Далёка, як сон, —
У ветрыку лёгкім купаецца клён,
у квеце каліна, сланечнікаў тан.
Я Госпаду ўдзячны, што Ён з вамі там,
дзе ў крыку нямым задыхнуўся Дняпро,
дзе Нестар злачынна хавае пяро,
бо ў горле прастуда, на сэрцы зіма,
і свет засланіла наўсцяж Калыма.

## ЧЫТАЮЧЫ ЯСУНАРЫ КАВАБАТУ

Разгарніся, мая душа,
на чатыры татамі.
Ад нагайкі ці палаша
Не закрыцца рукамі.
Хоць і маеш ты дзве мяжы,
пасярэдзіне праўда.
Як на ўскрайках ні варажы,
а не дойдзеш да ладу.
Пасярэдзіне — зім і лет
галінастая крона.
Пасярэдзіне — вечны след
(цень варушыцца сонна).
Ні да неба, ні да зямлі
не сягнуць анікуды.
Што ж вы зноўку плач усчалі,
крывадушныя юды?

Ці ж не марыў я цэлы час,
прагнуў, нібы пакуты,
зацвісці ў грамадзе між вас,
як барвінак між руты.
Як жа сніцца зямелька мне,
дзе я толькі начую,
як баляць мне нябёсы ў сне,
калі я іх не чую.
Як паўстаў у вачах мой край,
як агністы слуп у пустыні.
Кажа — біцца на смерць уставай
і не бойся, мой сыне.
Разгарніся, мая душа,
на чатыры татамі.
Ад нагайкі ці палаша
не закрыйся рукамі.

Васіль ГЕРАСІМЮК

(Украіна)

* * *

Прыйшлі ўначы. “Твой, дзеду, сын, памёр.
Упаў са стромы на вірлівым бродзе.
Не змог уцекчы — атачылі з гор”.
Стары змаўчаў, не запрасіў заходзіць.

Ён іх не знаў, а можа, не пазнаў.
Але ўвайшлі у хату, бо намоклі
на бродзе тым. Паселі і замоўклі.
“Вы з Касмача ці з Брустур?”* —
“Мы з аблаў”.

“У печ усё, што бачыў, замуруй.
Ва ўласным сэрцы замуруй праклёны.
Прабач за сына нам, за скон ягоны.
Паплач, сябе бязмоўем не катуй”.

Паслаліся, паклаліся хто дзе —
на лаве, на падлозе, у запечку…
Стары маўчаў, пасля запаліў свечку,
паклікаў сына і у ноч глядзеў...

Паснулі ўсе. Пакуль на белы свет
не выйшаў веташок на небасхіле,
варочаўся на мулкай печы дзед,
нібы пераварочваўся ў магіле.

Не, не ў магіле, ён з апошніх сіл
на строму лез і, кволы, падаў долу
туды, дзе ў плыні спяць хлапцы-саколы.
Пад імі — сын. А ў іх няма магіл.

З вірлівай плыні паднялі і ў лес…
Ніхто слязой скупою не заплача,
бо там сляза не змочыць жаўтапес,
дзе ты пераварочваўся, Касмачу.

---

* Касмач, Брустуры — паселішчы на Івана-Франкоўшчыне, якія ўваходзілі ў зону ўплыву УПА (заўвага перакладчыка).

* * *

Мы на камень паклалі мячы
і ў рацэ нашых коней купалі,
а чужынцы прыйшлі уначы
і на беразе табарам сталі.

Хваляў сумных супыньваўся бег.
Нам з чужынцамі будзе не ўжыцца.
Мы шукалі стары абярэг,
нас шукала знявага чужынцаў.

Мы сваё бераглі, як маглі,
а навалы чужой прычакалі.
Хто ж тут вінны — ўзялі і прыйшлі
і на беразе табарам сталі.

Не чакалі мы рай на зямлі —
згаладнелая першая сотня.
Чужакі на наш бераг прыйшлі,
і мы схопімся з імі сягодня.

Коні косяцца, чуючы спуд.
Мы шчыты на каменне паклалі.
Давядзецца памерці, бо тут
чужакоў сёння мы не чакалі.

Чырванее над рэчкай раса,
коней купаных неба гайдае…

І прабегла рудая ліса
паміж хмараў з паўночнага краю.

* * *

Не зло, не зламанае ў пушчы крыло
аслабіла ў веры,
а тое, што ўзнесла, пасля ж увайшло
марозам у вены.

Хай скончыўся бой, наступіў супастат
на грудзі нагою,
а памяць стаіць, як астатні салдат,
не кідае зброю.

Там — жонка чакае і паліцца печ,
тут — скончана сеча.
Да зраненых рук, што не кінулі меч,
прылашчыцца свечка.

Схіляецца долу трава-татарва
гірляндавай славай.
Не плачце па мне, бо сівая трава
узыдзе атавай.

А ты, хто ізноў свой паранены род
падняў, як сякеру,
ты будзеш паўзці да бацькоўскіх варот
з вайны, што за веру.

Наўколенцы станеш, сякі і такі,
над родным парогам.
Пракляўшы цябе, паўміралі бацькі,
што мовілі: з Богам.

Каб ты не хіснуўся у веры сваёй,
змаганец наш чынны,
мы род свой загубім — мы выйдзем на бой
пад крык крумкачыны.

Іван МАЛКОВІЧ

(Украіна)

## ЛУБОК

Дзесьці ў ціхім бязлюдным закутку
на вуголлі намоклым, у смутку
анёлы два:

першы крылы другому васкуе,
а другі сябра ў вочы цалуе —
чакаюць Раства.

Поруч з імі дзіцёнак прыгожы,
і ніхто здагадацца не можа:
хто каго пад ахову узяў? —

ці дзіцёнак іх, а ці іначай —
два анёлы дзіцёнка, што плача,
румза, ручкамі неба абняў.

Белакрылым анёлам дзе дзецца?
Што рабіць ім на чорнай зямельцы?
Вугаль біць сілаў ім не стае.

Кожны з іх мог бы крылы атрэсці,
немаўля на нябёсы аднесці,
ды Гасподзь не дае...

Дзесьці, дзе паскіданы ялінкі,
дзе з заморскіх пладоў шалупінкі,
дзе сняжынак сяйво,

два анёлы, пры іх — немаўлятка
ў кулачку заціскае калядку…
Прамінула Раство.

Іван АНДРУСЯК

(Украіна)

## ЦЭРКАЎКА З ЧАРОТУ

Яшчэ ў пачатку XX ст. на беразе
ракі Ворсклы, у вёсцы Кузямыні,
была царква, сплеценая з чароту.

я цябе не чую
цэркаўка з чароту
над вадой начую
сню тваю самоту
над вадой не леты
ворсклы векавое
я не бачу дзе ты
я не знаю хто я

выглядалі шыбы
з лісця маладога
там бабры і рыбы
верылі у Бога
птушкі і балоты
а між імі людзі
цэркаўка з чароту
спавядаць ці будзе

цэркаўка дзве вежы
цэркаўка тры крокі
пах аеру свежы
з чарацінаў кроквы
Ты з крыві і крыку
вымасціў падножжа
о Твой храм вялікі
міласэрны Божа

моцна ў ворсклу неба
ў сцюжу і спякоту
ты ўплялася нема
цэркаўка з чароту
літургія цішы
там гучыць былінна
і чаротам дыша
Бог і Украіна

кволіцца надзея
праганю маркоту
пастаю яшчэ я
ў цэркаўцы з чароту
адагрэю душу
свечачкаю з воску
і старэнькі рушу
да нябеснай ворсклы

* * *

Умее спяваць і ціша,
калі да яе дакранецца
Дзева Марыя з вышы
голасам сэрца.

І высвецяцца агнямі
душы, думкі й павекі.
Сёння Ісус між намі —
сёння й навекі.

*

Святло прасветлага дня
свеціць.
ужо Ён цябе абняў,
свеце.

Ужо праваруч Ён, і вось
ангел вяшчуе.
— Чуеш? Хрыстос уваскрос!
— Чую…

## КАЛЫХАНКА ДЛЯ ІСУСА

ціха, ціша… ціха, ша…
хай бязлюднее шаша –
крыж абняўшы з кіпарысу,
спіць Цнатлівая Душа.

спі, Дзіцятка, трэба спаць,
пеўні ўсе яшчэ маўчаць,
покуль пад крыжом з алівы
ані дзіды, ні мяча.

толькі ўецца Голуб-Дух,
прыкмячае кожны рух
там, дзе крыж халодны з кедру
моўчкі горнецца да рук.

спі, Сыночак, спі, малы —
цела да крыжа тулі…
з перапоўненае чашы
ні краплінкі не пралі —

покуль з’явяцца з нічога
белы і чырвоны човен
і на хвалі-валуны
не падымуцца яны,

і з расплюшчаных вачэй
сон цярновы пацячэ,
ён твайго ілба кранецца,
абаўецца ля плячэй…

на алівавай гары
цені ходзяць у галлі,
то адна, а то другая —
рыхтык твар жывы зямлі.

там вынырваюць з нічога
белы і чырвоны човен,
і плывуць у нікуды
месяцовыя сляды.

ціха, ціша, ціха, ша…
усміхаецца душа…
мо табе, а можа мне
усміхаецца у сне…

Сяргей ПАНЦЮК

(Украіна)

## БАЛАДА ПРА ПАРАНЕНАГА ХЕРУВІМА

Херувім лятаў сабе,
шукаючы сэнсу
над зямлёй, дзе сэнсу
не бачылі і не чулі.
А паколькі ён меў
поўныя грудзі сэрца,
то туды і патрапіла
выпадковая куля.

Параненаму херувіму
цяжка распраставаць крылы,
каб захоўваць адлегласць
між Богам і чортам.
Каб зямля ад смерці
хоць на дзень адпачыла,
ён паволі кружляе
над Данецкім
аэрапортам.

Раней мог за гадзіну —
ад Карпатаў да Крыму,
і паўсюдна віталі,
маліліся і кадзілі…
А цяпер ён часова
не кіруе святымі —
пераняслі яго ролю
баявыя камандзіры.

Херувім знемагае,
разумее: яму ўжо
не патрапіць ніколі
на ратацыю ў рай.
Ды лятуць і лятуць угору
салдацкія душы
і апошнім дыханнем просяць:
херувіме, не памірай…

## УКРАІНСКІЯ ЖАХЛІЎЧЫКІ

### Памяці рускага байкера Федзі

Федзя ў райцэнтры купіў сабе байка,
Газу як даў — аж трапеча фуфайка!
Раптам пад колы з кустоў — парасё…
Трах! Тарарах! Іскраў сноп. Вось і ўсё.

### Заходнеўкраінскі сюжэт

Прызнацца мусіце мне, дзеці,
Хто кулямёт дастаў са сховы?
То ж не маскаль ішоў з павеці,
А ваша цётка несла дровы.

### Павучанне старога ваўкалака

Людзей усіх, сынку, не згортвай да кучы,
Цярпліва шукай кампраміснага выйсця.
Калі не заб’еш — пападзецца жывучы —
Спрабуй хаця б руку ці палец адгрызці.

### Безадказная тэхніка

Дзядзька Васіль пілараму купіў,
Гайкі падкручваў і пілы зубіў…
Першай на лямант прыбегла дзятва —
А з аднаго Васіля стала два!

## Лідар

Чарвяк ракрычаўся — ну хоць яго рэжце:
“Пусціце! Я лідар!” І выпаўз нарэшце.
Ды вось, бедалага, не ведаў, напэўна, —
Ён вылез з зямлі перад дзюбаю пеўня.

## Проста з моста

“Тарзанка — для адважных свята.
Скачы!” — лунала рэха ў далях…
Мазгоў, прызнацца, небагата
Пасля гайдалася на хвалях.

Віктар ВАРАШЫЛЬСКІ

(Польшча)

## НА СМЕРЦЬ КСЯНДЗА ПАПЯЛУШКІ

Ксёндз Ежы ў дзяцінстве
размаўляў толькі па-просту,
гэта значыць — па-беларуску,
на шалёсткай мове
тых палёў, гаёў і пашаў.
І толькі пазней
пальшчызна
падставіла яму моцнае плячо,
увайшла ў яго,
прамовіла ім да Бога і людзей.
Можа, цяпер,
калі стаў перад Богам,
зноў адгукнулася ў ім сарамліва
мова маленства:
"Бацька, прабач ім, калі ласка"*

*Радок у арыгінале — па-беларуску.

Тадэй КАРАБОВІЧ

(Польшча)

## У МАЁЙ ПАЭЗІІ

у маёй паэзіі гняздзіліся
згаслыя крыжы
голыя і маўклівыя

доўга не цалаваныя

у іхніх самотных камлях
дзятлы выдзеўблі дуплы

на іхніх плячах спарахнелых
калісьці кроў застывала

* * *

прыпыніся побач начы
прытуліся шчакою да яе халоднай шчакі

дакраніся да яе чарнавалосай
заўваж у вачах цёмныя бяздонні
адчуй забытыя альбо затоеныя
жахі

распазнай цені што леглі ад крыжоў
і нас аголеных што атуляемся малітваю
любові

і разгубленага драча
які знянацку
спалохаўся нашых шэптаў і ўспацелых целаў

* * *

у малітоўнасці ранку забуду пра дотык
начы
за мною купал неба з роспісамі галактык

такія скляпенні неба я бачыў у маленстве
пераступіўшы парог храма

і храм і ноч трываюць доўга
малітоўнай ранішняй хвіляй

птах сонца
запальвае малітоўную хвілю
ува мне, па-за мною
і ў далечы

## Алеся МАМЧЫЧ

(Украіна)

* * *

Надарыцца вечар святы, на спагаду багаты.
Збалелай ялінцы ледзь цацкі не валяцца з рук.
А вецер паўночны скіруе мой ветразь дахаты,
А вецер паўднёвы пагладзіць парэпаны брук.

Хрыстос нарадзіўся! Ялінка самотна ўздыхае:
У гэтакі свет не збаяўся прыйсці Ты, Хрысце…
Завея мяце і ў сумёты зямлю спавівае.
А Ірад рыхтуе галгофу у цёмным куце.

* * *

Вечар чырванаваты
Стане, дзе і стаяў.
Там косці бялеюць з-пад мяты
І шаблі растуць між траў.

А цені да позняй ночы
Зыбаюцца ў туманку.
Брату выкалаў вочы,
Жонку ўтапіў у пяску.

Бо так было: вока за вока,
Тваё ўсё — прыйдзі і вазьмі.
Жыццё забалела збоку
Літасцю і слязьмі.

Сяргей АВЕРЫНЦАЎ

(Расія)

## ПАГОНЯ

Белы віцязь на чырвоным полі —
Белы выклік гвалту і няволі.
Кліч і выклік рыцарскага рога
І над пашчай бездані — дарога.
Белы віцязь на чырвоным, белы.
Самы ціхі голас — самы смелы,
Пострахам адказвае і крыўдам:
Выстаю, не адступлю, не выдам.
А калі і дзень і час настануць —
Мёртвы з ненароджаным паўстануць.
Не валадары зямлі — магілы
Скажуць слова пераможнай сілы.

## Ёнас ЛІНЯЎСКАС

(Літва)

### ДРАБНІЦЫ ЖЫЦЦЯ

Штораніцы спяшаюся ратаваць Радзіму.
Забываюся пагаліцца, прычасацца,
Паваксаваць боты, папрасаваць кашулю —
Столькі нікчэмных драбніцаў.
Штораніцы спяшаюся ратаваць Радзіму —
Напаўразбураныя выдмы, чорных буслоў,
Старую Вільню, літоўскую мову.
На развітанне я забываюся пацалаваць
Сваю каханую.

Штодзень да змогі б’юся за Радзіму —
Ворагаў забіваю пісьмёнамі,
Выклікаю іх на дуэлі, дабіваю
тэлефоннымі званкамі.
Увечары ледзь прывалакаюся, стомлены, дадому,
Каб з раніцы зноўку выпраўляцца на вайну.
— Дульцынея, дзе мой суп?
— Панса, чаму не навостраная зброя?!
І не лезьце мне ў вочы з праблемамі
дзяцей і старых,
З працай, з грашыма, з хваробамі
Ды з іншымі драбніцамі жыцця.

### БУСЛЫ

I

Калі надарыцца падарожнічаць
Ад Шаўляў уздоўж Завенця да самай Жамойці,

Прыгледзьцеся да нашых буслоў —
Яны ўзятыя на ланцуг
Пры хатах, платах і дрывотнях.
Дарэмна высільваюцца яны —
Крывавыя дзюбы і ногі —
Ланцугі трывалыя, як для быкоў ці баркасаў.
А дзеткі глядзяць з замілоўваннем —
Каб хоць не адляцелі ў Англію ці Нямеччыну.
У наваколлі не знойдзеш больш жабаў і змеяў,
Зайцоў, лісіцаў, касуляў, дзікоў.
Мядзведзі і зубры знішчаныя даўно.

Гісторыя наіўна паўтарае казку,
Што наш нацыянальны сімвал — бусел,
І замоўчвае, як чарада буслоў
Напала на статак зуброў,
Выдзеўбла ім вочы і, аслеплых, жыўцом заядала,
А пасля задзяўбла да смерці.
Гісторыя — гэта не штодзённік,
Дзе было б падрабязна апісана,
У якое балота ўцякаў статак зуброў,
І колькі сутак чулася адтуль
іх безнадзейнае рыканне…

II

Калі вы хоць аднойчы глядзелі ў вочы
літоўскаму буслу,
Можаце не сумнявацца: вы глядзелі
ў вочы смерці.
Там адлюстраваўся ўвесь пейзаж краіны,
Але — ніводнай жывой істоты.
І тут варта згадаць спрэчкі ў Сойме,
Калі зацвярджалі бусліны погляд;
Як дыскутавалі наконт нацыянальнай адметнасці,
Абмяркоўвалі гістарычны шлях народа,

Колькасць вады ў Балтыцы,
калабарацыю і люстрацыю,
Законы рынку ў першую шлюбную ноч,
Акцызы для пенсіянераў,
канверты для немаўлятаў,
Манаполію кароў на колер малака.
Перамаглі, як звычайна, эканамісты, юрысты
І незалежныя эксперты з банкаў:
Урбанізацыя ёсць калыска цывілізацыі.
Але калі бусел выносіць немаўля з калыскі,
То глядзіць такім позіркам,
якім глядзяць у бяздонне.

III

Бусел, бусел, клекатун,
Схапіў жабу за каўтун,
Па іржышчы валачыў,
У балоце намачыў, —
Так мы ў дзяцінстве спрабавалі
перамагчы свой страх.
Хто ведае, ці ўдасца ўхіліцца ад буслінага ўдару,
Вастрэйшага за згрызоты сумлення.
Больш за паўжыцця мы жывем у страху
Атрымаць вастрадзюбы ўдар у глухім завулку,
З-за вугла, на шпацыры па ліпавай алеі —
Удар незаслужаны, удар несвоечасовы,
Удар — не як пакаранне, а як законны чын.
Нікога не цікавіць, як ты будзеш жыць заўтра,
Таму штовечар сонца заходзіць
прыгажэй за смерць.

## ФАНТАН

Не маю грошай купіць сабе фантан.
Стаў бы пад дождж, ды ён уквэцаўся ў балота

І ліпка-халоднымі пальцамі
хапаецца за кустоўе.
Касавокія сарокі, шукаючы ежу,
Пераскокваюць з галіны на галіну.
Не маю грошай — яны пазарэз
патрэбны дзяржаве:
Пасадам, установам, зямлі і паветру.
Паветра патрэбна народу для таго,
Каб душы дзядоў прыляталі,
не адчуваючы ямінаў жыцця.

Не маю цвіка — прыбіць карціну.
Удзень і ўночы іх трымаюць,
лунаючы ў небе, птушкі.
Сарокі прыкінуліся совамі, начную варту
Змяняе ранішняя, а яе — дзённая.
Так і вісяць у прасторы карціны памяці,
Першыя — як песні, а другія — як плачы.
Паветра поўніцца ўзмахамі крылаў,
Птушкі чаргуюць плачы і песні.
Ды лепш на зямлю ў гэты час не спускацца,
А сядзець дома, зачыніўшы дзверы і вокны.
Свабода — рэч, вярэдлівая для душы,
Прыліпне бессаромна — не адарваць.

А змыць гэты сорам не маем
уласных фантанаў.
Па хатах сядзім і пакусваем пёры.
Хочаш, празрыстасць вады апішу,
Бачыш — льецца пясок,
хоць вазьмі і напіся.
Хочаш, мінуласць і прышласць табе апішу
На белым валоссі туману?
Дыханнем на шкле я намалюю карціну
І пасланцамі Бога — галубамі —
Прышпілю яе да небасхілу Айчыны.

## Русудан КАІШАУРЫ

(Грузія)

### ЖАНЧЫНА-СТОЛ

Калісьці жанчына была
Пісьмовым сталом.
Прасціны — яе пісьмёны.
Вяроўкамі з-пад бялізны
Прывязвала вятры,
Выкручвала сямейныя мары.
Сядзелі па шуфлядах дзеці,
Замкнёныя ключом сэрца.
Белыя ночы ператварала ў вершы,
Бо валодала пачуццямі,
Ад якіх стамляліся другія.
Аднойчы гэтая жанчына нагнулася,
Не змагла разагнуцца і ўзляцець.
Тут жа падбегла крэсла і стала збоку,
Нават не спытаўшыся: гэта жанчына ці стол.

### МАЦОНІ

Чалавек асуджаны на смерць:
Тэлевізар, газеты,
Вершы, святыя кнігі
Рыхтуюць нас да апакаліпсісу.
"Мацоні!", "мацоні!" —
Закрычыць у двары
Геніяльная вясковая дурнічка,
І збанкі з мацоні
Як вестуны спакою,
На акенца прысядуць.

…А там, наверсе
Яшчэ раз адкладуць
Канец свету.

## РАДЗІМА

Мая радзіма —
Пузаты кавун,
Зялёна-паласаты і салодкі,
Мае свае воды і мінералы
І нават — мінеральныя воды.
Ён спярэшчаны дарогамі,
Без пачатку і канца,
Якія дзесьці сустракаюцца.
Крапкі на ім — гэта мы,
Пабачыце, калі прыгледзіцеся.
Мая радзіма раней была прадаўгаватай,
Як падушка пад галавой,
І народ таксама быў працяглы
І скіраваны ў нябёсы.
Пастуквалі і слухалі —
Спелы ці не,
І кавун раскалоўся,
Чырвона раззявіўся.
О, як жахліва выглядае
Расколатая радзіма!
Спачувальнікі і плакальнікі,
Пасеўшы вакол,
Закрылі яе ад свету.
Яны плачуць не слязьмі, а слюной.
Спачувальнікі і плакальнікі
Не адмаўляюцца яе з’есці.
Але і радзіма
Можа іх праглынуць…

## ВЯСНОЙ АДБЫВАЕЦЦА

Шукала каханне,
А знаходзіла праблемы на сваю голаў.
Ад прыроды я — нібы дрэва,
Расцвітаю вясной
І ператвараюся ў лес.
Няўклюдная на зямлі,
Я ўцякаю ў вышыню,
Даганяючы сваё сэрца.
Мне цікава,
Хто прылашчыць
Маю голую верхавіну.

## САМАЗАБОЙЦА

З маёй хаты
Не выветрываецца водар ежы —
Тут кіпяць вершы,
І ад пары слязяцца вочы.
У маленстве ад дражнілак равеснікаў
Я ўцякала скардзіцца
Не маці, а вершам,
Якія гладзілі мяне па галаве і супакойвалі,
З імі мы разам вярталіся да людзей,
Каб адпомсціць за мае крыўды.
Людзі называлі мяне невыноснай,
Я абкрадвала іх
І скрадзенае аддавала вершам.
І што мне цяпер рабіць?
Усё і ўсіх я перасяліла ў вершы —
Так я адпомсціла людзям.
І цяпер вершы цікуюць за мной,
Ідуць за мной у пагоню,
Каб забіць мяне.
Сяджу на самоце,
Перада мною ляжаць папера і асадка —
Зброя самазабойцы.

Януш ВУЙЦІК

(Польшча)

## ВОСЛІК

Яну Твардоўскаму

Менавіта вослік
а не ганарлівы леў
а не вярблюд
вынослівы карабель пустэльні
і не коні
запрэжаныя ў калясніцы
абраннікаў сонца

толькі ён
заслужыў гэткі гонар
ставіць капыты на дарозе
усланай галінкамі пальмы

з гадамі
насмешкі турыстаў
не раздражняюць яго
калі стаіць задуменны
у цені аліўкавых дрэваў

З кнігі для дзяцей
"Камень-перунок"
(1998)



## КРЫЖАДЗЮБЫ-ШЫШКАЛЮБЫ

Вавёркі гладзяць тварык сонейку,
Хвасты пухнатыя пабраўшы ў лапкі.
А крыжадзюбы па сасонніку
Збіраюць дружна шышкі ў шапкі.

— Чаго вам, крыжадзюбы, весела? —
Пытае касалапы Мішка.
— Прысмакаў шмат зіма развесіла
Па ўсім бары — на шышцы шышка!

Мядзведзь, паразважаўшы крышку,
Пакаштаваў рашуча шышку
Ды як шпурне яе ў сумёт!
Маўляў, нашмат смачнейшы мёд.

А крыжадзюбы-шышкалюбы
Вячэралі на цвёрдым пні,
Не шанаваліся ані
І — пакрывілі свае дзюбы.

## ПЕЎНІК-БУДЗІЧ

Разгарнуўшы дзюбай спеўнік,
Сеўшы лепш на седале,
Ранку гімн спявае пеўнік,
Каб санліўцы ведалі:
Хоць шкада ім вельмі ночкі,
А сыходзіць ночка ўпрочкі.

Пеўнік-будзіч галасісты
У прыгожым фрэнчыку —
Пёры граюць, як маністы,
Шпорыззяюць залаціста,
Сонца на грабеньчыку!

## СУМНЫ СОМ

Захінуўшыся аерным крысом,
Дрэмле ў возеры марудлівы сом.

Спаў учора, не прачнецца і сёння,
Толькі бурбалкі пускае спрасоння.

Сняцца сому пірагі і яешня,
А на небе жоўты месяц, як блешня.

Дзень настане, будзе сонечна й тлумна,
Ну а сому — зноў самотна і сумна.

Сом у сон упаў ізноў, як мядзведзь,
І ў таптуху не патрапіў ледзь-ледзь!

## НЁМАНСКІ КІТ

Заплыў аднойчы ў Нёман кіт —
Вусаты, дужы і вялікі.
Схаваўся кіт у цень ракіт,
І быў ён свойскі, а не дзікі.

Змыў пад уласным душам пот
І ўтульнае пакінуў ложа —
Паплыў наш кіт, як параход,
Па Беларусі ў падарожжа.

Ён плыў між пушчаў і лугоў —
Аж Нёман выйшаў з берагоў!
Раптоўна ўгору ўзняўшы хвост,
Кіт прыпадняў над рэчкай мост!

Ён з рук дзяцей еў карамель
І сеў пры беразе на мель.

Цякла вада ў кіта па вусе.
Ён з’еў цукерак цэлы пуд.
Застаўся б жыць у Беларусі,
Ды трэба плыць у родны кут.

## КАЖАНЫ

Толькі змрок зямлю абляжа,
Чорны-чорны, нібы сажа,
Толькі ўнурацца ў падушкі
Ўсе дачушкі і сыны —
Прылятуць у сад яны,
З крыламі, але не птушкі,
Шапаткія кажаны.

Чуе, навастрыўшы вушы,
Сад ад страху сам не свой,
Як яны гуртом на грушы
Віснуць — долу галавой!

І чутны ў начное цішы
Шэпты дзіўных тых мышэй:
— Мы ж амаль ужо не мышы,
Мы — вышэй!

Мы з аблокамі нароўні,
Мы — пасланнікі зямлі,

Далятаем аж да поўні,
Гнёзды ж на зямлі звілі.

Мышы-кажаны на даху
Націралі поўні твар —
Ажно кот залез ад страху
Ў комін, нібы камінар!

## САБАКА ДЗІК

Дзік хадзіў на паляванне,
Так уквэцаўся у гразь —
Ледзь адмылі яго ў ванне
І пад коўдру на дыване
Спаць паклалі — не вылазь!

А Дзіку зусім не спіцца,
Лес густы яму не сніцца,
І няма у сне балота.
Проста ж спаць — каму ахвота?

Не прысніць, як ні старайся,
Ані зайца, ані качку.
Хоць ты гаўкай, хоць ты лайся —
Як улежаць тут сабачку?

На балкон пракраўся Дзік
І завыў на маладзік.

## ЗЯЗЮЛЬКА-ЖЫВУЛЬКА

Жыве ў насценнай хатцы,
Птушыны век вякуе.
Прывыкла завіхацца,
Працуе і — кукуе.

Заўсёдны клопат мае,
І ўдзень, і ўноч, пабач,
Піхае і піхае
Натомлены ківач.

Шыбуюць стрэлкі ўлегцы.
Што возьмеш з валацуг?
Яна ж
Час, як за лейцы,
Цягае за ланцуг.

Натоміцца, здаецца,
Прысне на лежаку.
Ды ў самы сон акенца
Расчыніцца:
— Ку-ку!

Не назаляйце птушцы —
Ўцячэ да сваякоў,
Дзе ў пагудастай пушчы
Жыла спакон вякоў.

## ЧАГО ХОЧАЦЦА РЫСІ

У рысі і ўночы
Відушчыя вочы,
Даўгія вусы,
На вушах кутасы.

За дуб, як за мур,
Хаваецца рыска
І кажа: — Мур-мур,
Як хатняя кіска.

Кажух — навырост,
І верыцца ўсё-ткі,

Што вырасце хвост,
Бо вельмі ж кароткі!

## ШТО ЛЮБІЦЬ ВЯРБЛЮД

Клетку абышоў вярблюд,
Папляваў у кожны кут
І пажаліўся нам з татам:
— Не хачу я быць гарбатым!

А пасля сказаў вярблюд:
— Я з'ядаю сена пуд.
Да прысмакаў я не падкі,
Я люблю папіць гарбаткі.

## ШКАДЛІВЫЯ ЗУБРЫ

Выйшлі з пушчы тры зубры —
Пашчапалі дуб стары,
З'елі ў полі канюшыну,
З моста скінулі машыну,
Пазатоптавалі лугі,
Параскідвалі стагі,
Выбеглі на скрыжаванне,
Сталі, нібы на паляне,
У рагаты паўкруг
І спынілі рух!

Гэй, зубры, цары прыроды,
Не чыніце іншым шкоды!
Лепш дзяцей катайце ў парках
На сваіх магутных карках.

## МЯДЗВЕДЗЕЎ СОН

Наракаў мядзведзь на лёс:
— Хоць бы мёду хто прынёс.
Вочы ледзь заплюшчу —
Бачу нашу пушчу,
Яму пад ялінай
І вядро з малінай!

## БАЯЗЛІВЫ ЛЕЎ

Леў на ветры закалеў,
Захацеў у цёплы хлеў.
А карова: — Му-му-му,
Малака не дам яму.
А кабанчык: — Рох-рох-рох.
Лыч наставіў, нібы рог.
Шарык гнеўна грыз ланцуг:
— Гэй, ганіце валацуг!
Толькі певень прамаўчаў —
Шпоры ён тачыць пачаў.

Ледзь ад страху не самлеў
І вярнуўся ў клетку леў.

## МАЛПА-СВАВОЛЬНІЦА

Малпы селі на арэлі
І да вечара дурэлі.
Адгуляўшы гулі,
Раненька паснулі.
А малая малпачка
Патушыла лямпачку
І, звязаўшы ўсе хвасты,
Збегла ціхенька ў кусты.

Як прачнуліся ўсе, ох,
Ну ж і быў перапалох!

## ДАСКАКАЎСЯ

Скача хлопчык-кенгуру,
Скок убок, пасля ўгару.
Цэлы дзень вось так мінае —
Скача, маме замінае.
Трэба хату ёй падмесці,
Згатаваць усім пад’есці.
Неслух гойсае па хаце.
Зазлавала ўрэшце маці —
Надавала ў каршэнь,
Пасадзіла ў кішэнь.

## ЖЫРАФА Ў ЗВЯРЫНЦЫ

Сон жырафе сніўся дзіўны
З афрыканскае радзімы —
Лотаць, што ў рацэ не вяне,
І гайсанне па саване.
Там знянацку ёй на нос
З пальмы важкі ўпаў какос.
І яна з балючым носам
Ваявала ў сне з какосам.
Пальму тузала за косы,
Пастрасала ўсе какосы —
Зашпурнула на нябёсы!

## СЛОНІК ХОЧА Ў СЛОНІМ

Слонік тупаў па вальеры,
Мацаў хобатам — дзе дзверы.

Не схацеў ён жыць на поўдні,
Дык не хоча і ў Гародні,
Ані ў Менску, ані ў Слуцку,
Хоць там можна жыць па-людску.
І не хоча ў Белавежы,
Хоць і там хапае ежы.

Слонік моўчкі сеў на ўслоне.
Як сказаць без слоўніка:
— Слонік я, хачу я ў Слонім.
Пашкадуйце слоніка!

## КАМЕНЬ-ПЕРУНОК

Зоркі з неба падалі ў траву,
Многа-многа пераспелых зорак.
Дзік сачыў, задраўшы галаву —
Мо якая ўпадзе на падворак.

Мы шукалі ў садзе, ля прысад,
Дзе траву вятрыска пакамечыў.
Быў над садам гэткі зарапад!
А знайшлі не зорку, а каменьчык.

Дзік ад роду меў дзве пары ног,
Спрыт і нюх таксама меў сабачы
І чароўны камень-перунок
Першым у густой расе пабачыў.

Мы з бабуляй развучылі словы
Старадаўняе, як свет, замовы:

Камень-перунок —
Перуна сынок.
Крамянёвы лоб,
Збаў нас ад хвароб.

Ад ангіны злоснай
І ад грыпу з воспай.
Ад ліхога вока.
Згінь, бяда, далёка.

З той пары, ледзь выйду за парог, —
У кішэні светлячком міргае
Камень-перунок — мой абярог,
Ён мяне ад зла аберагае.

## КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Калі снег ідзе, калі дожджыкі
Смачна спяць у хмарах пуховых,
Па мястэчку ідуць калядоўшчыкі.
Гэй, выносьце, што ёсць у сховах!

За каўбаску —
Паслухаце казку.
Каб душа спявала —
Выносьце сала!

Гаспадар, чаму не ў гуморы?
Ці прысмакаў аніякіх няма?
Хай каза пашукае ў каморы,
Можа, што ўпадабае сама.

Дзе каза рогам —
Там жыта стогам.
Дзе каза хвастом —
Там жыта кустом.

Каб я еў і піў, і жыў там —
У каморы, поўнай жытам!

На заснежаныя пагоркі
Касавурыцца поўня ў адчаі.
Яна ў шчодрай каляднай зоркі
На ўсю ноч святла пазычае.

## ЯК ВОСЕНЬ УСІХ АПРАНУЛА

Халадком дыхнула восень.
А увосень — работ восем.

А увосень дожджык хвошча,
Лье халодную ваду,
Пажаўцелы сад палошча
І мурзатую граду.

Хоць далёка маразы,
Вінаград над ганкам
Ад карэнняў да лазы
Замярзае ранкам.

Цеплалюбны вінаград
Золкай восені не рад.
А крый божа пойдзе град —
То па гронках акурат!

Па гародзе скача шпак:
— Тут раней было не так.

Апранулі градкі
Шэрыя апраткі.

Качаны капусты
Завязалі хусты.

І агрэст па самы нос
Затуліўся у бурнос.

Агуркі і памідоры
Пахаваліся ў разоры.

А парэчкі, як кабеты,
Панацягвалі гарсэты.

А вяргіні, як паны,
Залатыя жупаны!

А сланечнікі, як брацікі,
Даматканыя кабацікі.

І ляжаць гарбузікі,
Як на сукні гузікі.

Зазлаваў адзін бурак:
Не налазіць андарак.

Стаў чырвоным, нібы рак
не бурак, а небарак!

А гарбуз залез на плот —
Пільная патрэба:
— Надакучыў мне гарод,
Я хачу на неба!

Буду гушкацца ля хмар,
Выціраць аб хмары твар.

І глядзецьму, як на роўню,
Я на зоркі і на поўню.

Я не горай пасвячу,
Я амаль ужо лячу-у!

Ды ў гарод упаў гарбуз
І набіў вялікі гуз.

Бульба ў мех і — да варот,
Зарыпелі сходні:
— Пакідаю я гарод,
Еду да Гародні.

Там дамы — да неба аж!
Я паеду на кірмаш.

Закалеў і клён зусім,
Змок без парасоніка.

Так што ўвосень кепска ўсім,
Бо не грэе сонейка.

Восень з выраю ідзе,
На палетках рэй вядзе.

Вы барвяны там і тут
Бачылі яе сурдут?

## ЯК ДРАЧ У ВЫРАЙ ХАДЗІЎ

Ад зімы, халоднай і худой,
Што блукае з кульбай па іржышчы,
Драч пайшоў у вырай пехатой,
Бо адлежаў крылы на гарышчы.

Па калючай пожні і разорах,
Выслухаўшы варажбу зязюль,
Накірунак зверыўшы па зорах,
За спіну закінуўшы хатуль.

Драч ішоў тры дні па Белавежы.
Рэкі ў чаўнаках пераплываў,
Пераходзіў непрыкметна межы,
У стагах пад поўняй начаваў.

А ў нябёсах ластаўкі крычалі:
— Мы маршрут на памяць завучылі,
Паляцім у сонечнае Чылі,
Там нас летась добра прывячалі.

А буслоў чародка гаманіла:
— Мы ляцім ажно на бераг Ніла.

Ад сям'і адбіўся юны чыж
І махнуў, свавольнік, у Парыж.

Ну а драч напрыканцы дарогі
Ледзь валок натомленыя ногі.

Вось і вырай.
Драч прысеў на груд.
Самы час ад'есціся, праспацца.
А зіма з кульбакай тут як тут —
Мусіш у зваротны шлях збірацца.

З гора бедны драч адразу ў плач.
Што ж, такі ўжо, мабыць, лёс драчыны.
Ледзь вярнуўся на радзіму драч,
І з тых пор няма такой прычыны,
Каб пакінуў ён свой край айчынны.

## ЯК ГРЫБЫ НА ВАЙНУ ЗБІРАЛІСЯ

У мокры ці спякотны год,
Дакладна невядома,

Грыбы збіраліся ў паход —
Сядзець абрыдла дома.

А мо на бор напаў быў мор,
Прыціснула галеча?
Стары паважны мухамор
На ўзлессі склікаў веча.

— Грыбнога царства жыхары, —
Сказаў ды ўзяўся ў бокі.
— Сядзім нязрушна мы ў бары
І парахнеем без пары.
Хадзем, — надзьмуў ён шчокі, —
Вайной на Налібокі!
Хай ведае ліхі сусед —
Правучым мы яго як след.

А ў Налібоцкай цёмнай пушчы,
У патаемнай самай гушчы,
Жыў-не тужыў, не ведаў гора
Лось — даўні вораг мухамора.

Пачулі ўсе камандаў словы:
— Зважай!
— Шыхтуйся!
— Крокам руш!
А мухамор, як чын вайсковы,
Стаяў і браў пад капялюш.

Ды разнеслася пагалоска,
Што ваяваць не хоча войска.

Сказаў крамяны баравік:
— Ў мяне парваўся чаравік.
Я на паход гляджу дваяка,
Бо з босага які ж ваяка?

Азваўся з-пад куста масляк:
— Я ваяваў бы так ці сяк,
А мо і выйшаў бы ў героі,
Ды вось бяда — не маю зброі.

А падбярозавік спрасоння
Пахістваўся і вочы цёр:
— Калі ў паход збірацца, сёння?
О, я заўзяты мушкецёр!
Няхай рыхтуецца сахаты.
Што́ мне яго перамагчы?
Я рогі прынясу дахаты,
Усе пабачаць, на плячы!

Ды тут ішоў аднекуль вожык.
Дастаў з кішэні востры ножык,
Нагнуўся, чмыхнуў штось пад нос
І — крыкуна ў гушчар панёс.

За пень схаваўся мухамор
І ледзь ад страху не памёр.
А потым акрыяў нібы
І закрычаў: — За мной, грыбы!

Ды зноў разнеслі навіну
Сарокі, хуткія, як знічкі:
— Ісці не хочуць на вайну
Ні сыраежкі, ні лісічкі.

Сказалі хорам сыраежкі:
— Да пушчы мы не дойдзем пешкі.

Лісічкі прапішчалі ў лісці:
— Мы там ужо былі калісьці.

А даўганогія апенькі,
Што мелі свой атрад маленькі,
Не ў бой былі ісці гатовы,
А да лася на перамовы.

Не вытрымаў і польскі грыб,
Наставіў мухамору хіб
І пасміхнуўся ганарыста:
— Я ваяваў разоў мо з трыста,
Але не разумею штось —
Што кепскага зрабіў нам лось?

Не змоўчалі й махавічкі,
Былі чамусьці не ў гуморы,
Сучкі пабралі ў кулачкі —
Ну й дасталося мухамору!

Ён уцякаў у лес як дуж,
Згубіў на ўзлессі капялюш,
Схаваўся у будан сваяцкі
І страціў свой імпэт ваяцкі.

Ад таго часу мухамор
На шпацыр ходзіць рэдка ў бор.
Сядзіць ён, сам з сабой гаворыць
Ды у зацішку мухаў морыць.

# Змест



## З кнігі “Вечны Зніч” (1990)



## З кнігі “Вочы савы” (1994)



## З кнігі “Нашэсце поўні” (2001)

## Сцісла пра аўтара

Міхась Скобла нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын на Зэльвеншчыне. Закончыў Дзярэчынскую СШ (1984) і філфак БДУ (1991). Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Роднае слова” і выдавецтва “Беларускі кнігазбор”, у Міністэрстве культуры і друку. Аўтар кніг “Вечны зніч” (1990), “Розгі ў розніцу” (1993), “Вочы савы” (1994), “Камень-перунок” (1998), “Дзярэчынскі дыярыюш” (1999), “Нашэсце поўні” (2001), “Акно для матылькоў” (2009), “Вольная студыя” (2009), “Саркафагі страху” (2016), “Камізэлька для месяца” (2016). Укладальнік паэтычных анталогій “Краса і сіла: беларуская паэзія XX стагоддзя” (2003) і “Галасы з-за небакраю: паэзія свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя” (2008). Лаўрэат прэмій імя Ведзьмака Лысагорскага (1988) і Алеся Адамовіча (2000). Жыве ў Менску.



Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"

Выпуск 18

Скобла Міхась

Камізэлька для месяца

Паэзія

Рэдактар Барыс Пятровіч
Мастак Зміцер Шыла
Вёрстка Хведар Сумкін
Карэктар Алена Спрытніч

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі

Здадзена ў набор 20.03.2011 г. Падпісана да друку 26.05.2011 г.
Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Petersburg. Аб’ём — 6,7 ул.-выд. арк.
Наклад 300 асобнікаў. Заказ №

Выдавец і паліграфічнае выкананне: